ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 19—20 9 мая 1996 г.
(2473—2474) Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.



Пакуль жывое пакаленне пераможцаў -- будзем адзначаць Дзень Перамогі. Хацелася б спадзявацца, што гэтае свята надоўга застанецца ў нашай памяці і ніхто не выкрасліць яго з нашай гісторыі. І будзе заўсёды трапяткое полымя ля помніка-абеліска на плошчы Перамогі сталіцы нашай дзяржавы, як і ля помнікаў салдату Вялікай Айчыннай вайны, раскіданых па ўсёй Беларусі. І будзе вечнай памяць чалавецтва аб той вайне і той Перамозе. Бо ў рэшце рэшт, як бы хто ні ацэньваў падзеі тых далёкіх гадоў, гэта была перамога дэмакратыі над фашысцкім таталітарызмам, свабоды над рабствам.

Фота Віктара СТАВЕРА.

*СВЕДЧАЦЬ ДАКУМЕНТЫ*

## БОЛЬ ЛЮДСКІ

**Азарычы. Для многіх, хто перажыў і не перажыў вайну, гэта слова з'яўляецца сімвалам гора, страху, смерці. Тысячы людзей -- у асноўным старыя, жанчыны і дзеці -- прайшлі праз гэтае пекла лагераў, якія і лагерамі назваць нельга. Гэта вялікія балоты, агароджаныя з усіх бакоў калючым дротам і ахоўваемыя ўзброенымі салдатамі з сабакамі.**

**Азарычы -- тэрмін зборны. Ён уключае ў сябе цэлую групу лагераў, разгорнутых акупантамі на тэрыторыі Палескай вобласці Беларусі. У асноўным сюды траплялі тыя, каго, па нямецкаму разуменню, ужо нельга было выкарыстаць на цяжкіх працах у самой Германіі:**

**"... Салдат адклікаў убок адну жанчыну, якая на руках несла двухгадовае дзіця. Ён аддзяліў гэтую жанчыну ў групу працаздольных, а дзіця, вырваўшы з яе рук, выкінуў за лагер, у гразь. Над лагерам стаяў суцэльны стогн і плач. Такіх выпадкаў было многа", -- успамінаў у [illegible] годзе пасля вызвалення з лагера І.Раманенка. А што можна сказаць аб маральным вобліку доктара Серабракова, які, выконваючы загад, адправіў у Азарыцкія лагеры з бальніцы Жлобіна хворых на тыф. Як паказваюць архіўныя дакументы, усіх хворых адпраўлялі ў гэтыя лагеры з мэтай распаўсюджвання эпідэміі на войскі наступаючай Чырвонай Арміі. Хворыя ў лагеры "... ляжалі ўсюды, і многія паміралі. У ямы складвалі па 5--10--13 трупаў. За тры дні толькі паблізу ад таго месца, дзе я знаходзіўся, памерла 200--250 чалавек... Выжывалі толькі фізічна моцныя і больш-менш нядрэнна апранутыя", -- расказвала Ю.Баранава.**

**Чытаючы паказанні сведкаў, ловіш сябе на думцы, што ўсе яны напісаны людзьмі, якія прабылі ў Азарыцкіх лагерах 3--4 дні. І толькі потым становіцца ясна, што даўжэй там цяжка было пражыць...**

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**БЕЛАРУСКАЯ ПРЫСУТНАСЦЬ У БАЛТЫІ**

## ЗА ВАШЫМІ ФАРБАМІ БАЧЫМ БЕЛАРУСЬ...

Іх дванаццаць. І іх падзяляе многае: межы, мытні, стыль, тэхніка, жыццёвы вопыт, нарэшце. А аб'ядноўвае... Аб'ядноўвае мастацтва і Беларусь, дакладней, любоў да яе.

Сярод іх сталыя майстры, персанальныя выставы якіх ладзіліся ў Амерыцы, Канадзе, Фінляндыі, Нямеччыне, і моладзь, якая толькі яшчэ заяўляе пра сябе. А ўсе разам -- яны члены нацыянальнага аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар". Менавіта так называецца і само об'яднанне, дарэчы, адзінае нацыянальнае аб'яднанне мастакоў не толькі ў нас у Латвіі, а ўвогуле ў Прыбалтыцы.

Нядаўна аб'яднанне адзначыла сваё творчае пяцігоддзе. Яму і была прысвечана юбілейная выстава, якая ладзілася ў Доме Рэйтэрна. Да 10 сакавіка з экспазіцыяй беларускіх мастакоў маглі пазнаёміцца рыжане і госці сталіцы, потым пачнецца яе падарожжа па Балтыі і Швецыі.

Гісторыя аб'яднання так ці інакш, а ўсё ж звязана з Мінскам. Менавіта тут на свяце ў гонар Францыска Скарыны мастак з Рыгі Вячаслаў Целеш сустрэў мастакоў з Вільнюса. Разгаварыліся, Вячка падзяліўся сваімі думкамі аб супрацоўніцтве мастакоўбеларусаў.

**НА ЗДЫМКУ:** кветкі мастакам -- ад вучняў рыжскай беларускай школы.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**



## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



29 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў прадстаўнікоў амерыканскай школы РАМАПО (штат Нью-Йорк).
**НА ЗДЫМКАХ:** юныя амерыканцы выканалі для Аляксандра Лукашэнкі беларускія і амерыканскія песні.

> *"Я перакананы, што рэспубліцы патрэбна агульнанацыянальная ідэя, якая б выхоўвала гаспадара. Толькі такая ідэя зможа радыкальным чынам змяніць справы ў дзяржаве да лепшага. Пакуль жа і ў вёсцы, і ў горадзе працягвае жыць псіхалогія ўтрыманства, што выпрацавалася ў людзей за многія папярэднія дзесяцігоддзі. І хопіць рабіць выгляд, што паняцці "маё" і "наша" — ідэнтычныя. Яны вельмі і вельмі розняцца. Без сапраўднага гаспадара, свядомасць якога будзе прымушаць яго сумленна працаваць і берагчы зробленае, мы не пабудуем ні заможнага жыцця, ні багатай дзяржавы".*
> Мікалай ЯКОЎЧЫК,
> дэпутат Вярхоўнага Савета БЕЛАРУСІ.

*УДЗЕЛЬНІКАМ ВАЙНЫ*

## МЕДАЛІ АД КАРАЛЕВЫ



У зале Перамогі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны беларускім ветэранам другой сусветнай вайны, якія служылі ў Польскай арміі пад брытанскім камандаваннем, былі ўручаны медалі Яе Вялікасці каралевы Лізаветы II.

Узнагароды ветэранам Арсенцію Горбелю, Нічыпару Грышкаўцу, Аляксандру Дарашэвічу і дачцэ ветэрана Рамана Зянько Антаніне Шакун ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў другі пастаянны намеснік міністра абароны Вялікабрытаніі сэр Мурэй Сцюарт, які ў гэты час знаходзіўся ў Мінску з афіцыйным візітам. На цырымоніі прысутнічалі брытанскі ваенны аташэ ў Маскве камадор авіяцыі Філ Уілкінсан і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Джэсіка Пірс.

**НА ЗДЫМКУ:** разам з узнагароджанымі Арсенціем ГОРБЕЛЕМ, Нічыпарам ГРЫШКАЎЦОМ, Аляксандрам ДАРАШЭВІЧАМ і дачкой ветэрана Рамана ЗЯНЬКО -- Антанінай ШАКУН сфатаграфаваліся на памяць сэр Мурэй СЦЮАРТ, Філ УІЛКІНСАН і Джэсіка ПІРС.

*СТАТЫСТЫКА*

## РЫНАК ПРАЦЫ

Паводле звестак з Мінстата, колькасць эканамічна актыўнага насельніцтва на канец сакавіка складала 4,7 мільёна чалавек. З іх 166,5 тысячы (3,5 працэнта) былі зарэгістраваны ў Дзяржаўнай службе занятасці ў якасці беспрацоўных.

У першым квартале ў Дзяржаўную службу занятасці па пытанню працаўладкавання звярнуліся 82,4 тысячы чалавек. З іх афіцыйны статус беспрацоўнага атрымалі 78,9 тысячы чалавек. На канец сакавіка ў службах занятасці зарэгістравана 166,5 тысячы беспрацоўных, што на 6,2 працэнта больш, чым на канец лютага.

Дапамога па беспрацоўю налічана 82 тысячам беспрацоўных на суму 11,3 мільярда рублёў.

*СМЯРОТНЫ ПРЫГАВОР*

## ВЫРАШЫЦЬ ПРЭЗІДЭНТ

У Беларусі з пачатку года прыведзена ў выкананне 14 смяротных прыгавораў, паведаміў Інтэрфаксу старшы памочнік Генеральнага пракурора Аляксей Таранаў. Больш за 20 садыстаў, па словах пракурора, яшчэ чакаюць рашэння свайго лёсу з боку Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі, які ў пачатку красавіка ўжо адхіліў 6 хадайніцтваў аб памілаванні.

А.Таранаў паведаміў, што кіраўнік дзяржавы адхіліў, у прыватнасці, хадайніцтва 40-гадовага Мікалая Ваўка з Магілёўскай вобласці. У мінулым годзе ён, спрабуючы здзейсніць згвалтаванне, падманам зацягнуў 10-гадовую дзяўчынку ў свой дом і, збіўшы яе, задушыў капронавай вяроўкай. Гвалтаўнік схаваў цела дзяўчынкі да цемнаты пад ложак, пасля ноччу закапаў ахвяру ў агародзе каля дома.

На разглядзе ў Прэзідэнта знаходзіцца хадайніцтва раней двойчы судзімага Сяргея Марыненкі. З асаблівай жорсткасцю ў Верхнядзвінскім раёне ён забіў нажом і сякерай 80-гадовую жанчыну, пакваліўшыся на 920 нямецкіх марак, атрыманых пенсіянеркай за знаходжанне ў гады вайны ў канцэнтрацыйным лагеры ў Германіі. С.Марыненка вастрыём віл забіў таксама [illegible]енніка жанчыны, які стаў міжвольным сведкам злачынства.

Пракурор паведаміў, што сваё рашэнне Прэзідэнт Беларусі павінен вынесці таксама і ў адносінах Ігара Вішнеўскага з Мінска, які з мэтай завалодання грашамі і маёмасцю забіў сям'ю з трох чалавек, а затым, хаваючы сляды злачынства, падпаліў дом.

А.Таранаў напомніў, што за 1995 год вышэйшая мера пакарання ў Беларусі была прыведзена ў выкананне ў адносінах 30 злачынцаў.

> *"Я і сам не разумею, што гэта за камісія, чаму яна створана і хто зрабіў мяне старшынёй... Сімволіка не можа прапаноўвацца без апісання, гэта ж аксіёма! Хтосьці выкарыстаў пэўныя сімвалічныя элементы, мабыць, падрыхтаваў і службовую запіску — тлумачэнне зробленага?.. Камісіі не паведамілі, хто з'яўляецца аўтарам праекта сімволікі, зацверджанай рэферэндумам. Буду патрабаваць, каб аўтар выклаў сваё бачанне — хаця б для таго, каб было з чым параўноўваць.*
>
> *Дарэчы, сімволіка -- досыць паказальны прыклад, як у Беларусі вырашаюцца праблемы культуры (бо сімволіка -- гэта перш за ўсё пытанне культуры дзяржавы). Усё робіцца з дакладнасцю да наадварот: спачатку невядома хто прапаноўвае эскізы-варыянты сімволікі, невядома хто зацвярджае адзін з варыянтаў для перадвыбарных плакатаў, а потым ужо, пасля рэферэндуму, ствараецца камісія, якая заднім чыслом павінна знайсці найлепшае тлумачэнне гэтай сімволіцы... Зусім незразумела, чаму ў герб увайшла карта Беларусі. У гісторыі не бывае жалезных граніц, і карта краіны звычайна не адлюстроўваецца ў сімволіцы...*
>
> *Варта было б стварыць калектыў з ліку вучоных-гісторыкаў, фалькларыстаў, мастакоў, літаратараў, якія б знайшлі варыянт (ці варыянты) сімволікі і прапанавалі на разгляд ураду — вядома, з апісаннем. Такі мой пункт гледжання... А зараз чамусьці гавораць, што герб і сцяг зрабіў Савіцкі — маўляў, таму і ўзялі яго ў журы зацвярджаць апісанне... Ну і ну!.."*
>
> (З інтэрв'ю мастака Міхаіла САВІЦКАГА газеце "Звязда").

*ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ*

## КОЛЬКІ ЎВОЗІМ І ВЫВОЗІМ

Паводле апошніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, аб'ём замежнага гандлю рэспублікі за студзень-люты гэтага года склаў 21 924 мільярды беларускіх рублёў (ці 1 906,3 мільёна долараў ЗША.

Аб'ём замежнага гандлю за названы перыяд у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ўзрос на 55,4 працэнта, у тым ліку экспарт -- на 47,2, імпарт -- на 61,5 працэнта.

Асноўныя гандлёвыя партнёры Беларусі -- Германія, Польшча, Латвія, Літва, Нідэрланды, Вялікабрытанія, ЗША, Бельгія. На іх долю прыпадае больш палавіны гандлёвага абароту рэспублікі з замежнымі дзяржавамі. Самыя буйныя знешнегандлёвыя партнёры Беларусі з ліку краін СНД--Расія (83 працэнты), Украіна (12,1), Казахстан (1,8), Узбекістан (1,5) і Малдавія (1,1 працэнта).

*ЗЛЫ ДУХ ЧАРНОБЫЛЯ*




26 красавіка Беларусь адзначыла першую круглую дату пост-чарнобыльскага перыяду сваёй гісторыі -- 10-годдзе аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Да пачуцця нейкай злой наканаванасці, што завісла над нацыяй, дадалася і пагроза расколу нашага народа. Быць бы беларусам разам, плячо да пляча ў такой бядзе, каб перамагчы яе і выжыць. Але...

Нягледзячы на заклікі з праўрадавых і прапрэзідэнцкіх колаў да БНФ адмяніць сваё шэсце "Чарнобыльскі шлях" і далучыцца да афіцыйнага мітынгу-рэквіема, кожны пайшоў сваёй дарогай. У парку Дружбы сталіцы пры ўдзеле Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, Кардынала Казіміра Свёнтака і многіх афіцыйных асоб адбыўся "Мітынг-жалоба -- памяць Чарнобыля". "Чарнобыльскі шлях" быў забаронены гарадскімі ўладамі. Але адбыўся мітынг ля Палаца спорту на праспекце Машэрава. Былі бойкі з сіламі правапарадку, былі палітычныя правакацыі. Ёсць ахвяры, многа арыштаваных і пакараных судом.

**НА ЗДЫМКАХ:** (уверсе) мітынг-жалоба ў парку Дружбы народаў; (унізе) удзельнікі "Чарнобыльскага шляху" прарываюць кардоны міліцыі і іншых сіл правапарадку на праспекце імя Ф. Скарыны.



*ПАЖАРЫ*

## ЗНІШЧАНЫ ЗАПАВЕДНІК

Як стала вядома БелаПАН, у выніку пажару знішчаны спецыялізаваны радыяцыйны палігон, створаны ў Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці Інстытутам лесу Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь для правядзення вопытаў па вырошчванню на забруджаных тэрыторыях чыстых насаджэнняў.

Палігон знаходзіўся нападалёку ад могілак сёння адселенай вёскі Барталамееўка. Прычынай узнікнення пажару, магчыма, сталі свечкі, пастаўленыя на магілы нябожчыкаў. Дырэктар Інстытута лесу Віктар Іпацьеў лічыць, што страты ад пажару немагчыма вызначыць у грашовым эквіваленце: знішчанае не мае аналагаў.

# БОЛЬ ЛЮДСКІ

### АКТ

1944 года 18 сакавіка мы, ніжэйпадпісаныя прадстаўнікі воінскай часці 20627 -- маёр Рукавішнікаў Мікалай Мікалаевіч, капітан Маркароў Хачатур Мелікавіч, ст. лейтэнант Горбань Аляксей Якаўлевіч, ст. лейтэнант Корын Іван Васільевіч, склалі даны акт у ніжэйпададзеным.

Адступаючы пад ударамі часцей Чырвонай Арміі, нямецкія войскі на шляху свайго адступлення пакідаюць ахвяры сваіх небывалых у гісторыі жудасных зверстваў над грамадзянскім насельніцтвам. У раёне вёскі Дэрт Даманавіцкага раёна Палескай вобласці выяўлена 7 (сем) канцэнтрацыйных лагераў, абнесеных калючым дротам, куды нямецка-фашысцкія ўлады сагналі з суседніх раёнаў і абласцей (Кастрычніцкі раён Палескай вобласці, Жлобінскі Гомельскай, Рагачоўскі і інш.) мірных жыхароў, старых, жанчын і дзяцей больш 25 тысяч (дваццаці пяці тысяч), з якіх, са слоў тых, хто знаходзіўся ў лагерах, немцы пры сваім адступленні адабралі больш 7 (сямі) тысяч здаровых мужчын і жанчын і пагналі з сабой. Больш 8 (васьмі) тысяч чалавек закатаваны, расстраляны і памерлі ад голаду.

Там жа, у раёне лагераў, маецца выкапаны роў даўжынёй больш 100 метраў і шырынёй 2 метры, куды немцы звальвалі жывых і мёртвых грамадзян і расстраляных, таксама і замучаных дзяцей, жанчын і старых з прастрэленымі галовамі, а таксама кулявымі прастрэламі грудзей, жывата.

### ЗАЯВА

**у надзвычайную камісію па расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх катаў над савецкімі грамадзянамі ад грамадзянкі м. Дары Даманавіцкага р-на Палескай вобласці Надзеі Ніканораўны КУНДО, 41 год.**

*27.03.44 г.*

Я знаходзілася ў нямецкім палоне 3 дні ў іх лагеры. Лагер размяшчаўся ў балоце. Былі сцюдзёныя дні, ішоў снег, а дроў нам не давалі, хаця дроў навокал было многа і маглі ад гэтага грэцца.

Кожная ноч давала вялікую колькасць трупаў, так што не было дзе пераступіць нагамі. Паміралі старыя, дзеці, маці. Адносіліся да народа па-зверску. Немцы нас білі палкамі. Мяне нямецкі салдат ударыў за тое, што я з падводы спрабавала ссадзіць сваё шасцігадовае дзіця. Хлеб кідалі нам, як сабакам, такім спосабам нас забяспечвалі ежай. Прадукты траплялі толькі моцным, а слабыя паміралі з голаду.

### З ПРАТАКОЛА ДОПЫТУ

**ШЫБАЛЦІС Ганны Рыгораўны -- 26 гадоў, жыхаркі в. Рэдкаў Даманавіцкага раёна Валасавецкага сельскага савета.**

Я разам са сваім дзіцем -- 1 года была сілай выгнана з дому і адпраўлена ў лагер. Ні рэчаў, ні хлеба мне не далі ўзяць. Так была ачышчана ўся наша вёска. Усіх да адзінага выгналі з вёскі. Хто не мог рухацца, бязлітасна збівалі...

У лагеры ўсіх нас немец сагнаў за калючы дрот, і вакол лагера былі расстаўлены міны. Вады нам не давалі, не давалі і хлеба. На другі дзень нашага знаходжання ў лагеры прывезлі машыну з хлебам і булкамі, сталі кідаць з сілай у натоўп, у выніку многім разбілі твары, выбілі зубы. У лагеры немец бязлітасна здзекаваўся з жыхароў. У гр. Селіван Матроны з в. Рэдкаў на тыф захварэла дарослая дачка. Ляжала яна недалёка ад дроту. Немец загадаў хутка адысці ад дроту на 20 метраў. Усе адышлі, а Селіван не ў сілах адна была аднесці сваю дачку, тады вартавы да паўсмерці збіў яе. Ад пабояў Селіван неўзаб... памерла, памерла і яе дачк...

У снежні, калі немцы занялі в. Рэдкаў, усіх жыхароў сталі лавіць і жывымі спальваць у дамах. Так былі спалены жывымі (кінуты ў агонь) Ігнатовіч Ада... 60 гадоў, Бялько Данііл -- ... гадоў, Гарбер Філіп -- 50 гадоў, Селіван Яўстафій -- 65 гадоў быў ва ўласным доме да паўсмерці збіты, а потым жывым спалены. Бялько Іван, Бялько Гаўрыіл, Бялько Мацвей, Ігнатовіч Марфа разам са сваімі двума дзецьмі, Ігнатовіч Таццяна з 8-гадовым сынам, Ігнатовіч Матрона, Ігнатовіч Еўдакія, Ігнатовіч Ульяна, Пакуш Маланння, Цалка Агапа 45 гадоў, Селіван Дар'я з дачкой. Усе вышэйпералічаныя былі жывымі спалены. На вачах сваіх дзяцей была спалена Ігнатовіч Матрона. У час гэтых зверстваў большасць дзяцей разбегліся, пахаваліся ў акопы і перапужаныя глядзелі на ўсе жахі, плач і стогны.

Усё, што перажыта асабіста мною, усё, што бачыла я на свае вочы, ніколі не забудзецца. Немцы вякамі не змогуць хоць колькі-небудзь загладзіць свае зверствы, учыненыя імі. Помсціць немцам будуць не толькі нашы дзеці, але і многія пакаленні.

### З ПРАТАКОЛА ДОПЫТУ

**БЕЛЕНЬКАЙ Ульяны Канстанцінаўны -- 14 гадоў, жыхаркі в. Рылавічы Хоміцкага сельскага савета Даманавіцкага раёна Палескай вобласці.**

Яшчэ восенню, у лістападзе, калі немцы адступілі, яны ачапілі сяло, паставілі вакол кулямёты і пачалі зганяць усіх жыхароў на машыны. Усю нашу сям'ю, маці Аляксандру Антонаўну 55 гадоў, мяне, сястру Веру 11 гадоў, брацікa Мішу -- 9 гадоў, сястру Марфушку 12 гадоў загналі на адну машыну. Паспелі мы захапіць з сабой крыху харчоў, а астатняе ўсё засталося тут. Нас павезлі ў в. Беразнякі Даманавіцкага сельсавета Палескай вобласці. У Беразняках мы жылі ў хаце разам з гаспадарамі. У маленькай хатцы нас жыло больш за 20 чалавек. Елі толькі тое, што захапілі з дому. Гэтага было вельмі мала. Хлеба не было. Елі толькі бульбу без солі.

Праз 10 дзён нас зноў пагрузілі на машыну і завезлі ў Дубраву за 25 кіламетраў ад Азарычаў. Там мы пераходзілі з дома ў дом. Многа начэй начавалі проста на дварэ. У Дубраве жылі месяцы тры. Калі нашы войскі сталі набліжацца да Дубравы, немец нас зноў павёз ў Сакірычы кіламетраў за 7 ад Дубравы. Многія былі хворыя і раненыя. У Сакірычах жылі ў хляве пад ахoвай немцаў і паліцэйскіх. Ёсці нам нічога не давалі. Карысталіся снегам, які быў паблізу хлява. Да калодзежаў не пускалі. З Сакірыч паліцэйскія нас, хворых, пасадзілі на падводы і павезлі ў Кастрычніцкі раён. Калі нас бралі, мы ў іх пыталіся: "Куды нас павязуць?", а яны адказвалі: "Ад вёскі да вёскі. Вам там будзе лепш".

У Кастрычніцкім раёне, недзе каля чыгункі, нас чалавек 50 загналі ў маленькую хатку без вокнаў і печкі і не дазвалялі адыходзіць. Тут мы мучыліся 7 дзён. У гэтым доме памерла 3 чалавекі. Потым нас зноў пагрузілі і павезлі яшчэ на 30 кіламетраў у в. Забалоцце. Там мы таксама жылі дзён 6 на дварэ, таму што ўсе пабудовы ў вёсцы немцы спалілі.

З гэтай вёскі немцы павезлі нас у лагер. Немцы гаварылі, што вязуць нас у іншую вёску, а на самай справе пасадзілі на машыну і завезлі ў лагер кіламетраў на 30, да фронту бліжэй. На балоце, каля невялікай канаўкі, была абгароджаная вялікая пляцоўка. Вакол стаялі нямецкія вартавыя з кулямётамі і аўт...амі. Калі нас прывезлі, там б... ўжо многа народу. Гаварылі, што больш 10 000 з розных мясцін: з Бабруйска, Жытоміра і многіх іншых.

Людзі сядзелі ...гразі, у вадзе. Былі там і стар... дзеці, і жанчыны, і шмат працаздольных людзей. У лагеры ніякай ежы не выдавалі. Адзін раз прывезлі хлеб на машыне і кідалі ў натоўп. Таму-сяму дасталася па кавалачку, а астатняе растапталі ў гразі. Ваду бралі ў канаве — брудную. Многа людзей памірала ад голаду і хвароб. Дзе ні ідзеш -- ляжаць мёртвыя. Адну поўную машыну хворых прывезлі. Яны за ноч і паўміралі. Я чула, усе гаварылі, што яны хворыя на тыф. За дзень памірала да 100 чалавек. У гэтым лагеры мы жылі трое сутак.

Потым нас зноў пачалі грузіць на машыны. Клункаў з сабой браць не дазвалялі, а хто браў, таго збівалі. Маці маю біў адзін паліцэйскі палкай за тое, што яна не магла сесці на машыну. Потым нас прывезлі ў другі лагер каля Рудабелкі. Гэты лагер размяшчаўся ў вёсцы, быў агароджаны дротам і ахоўваўся моцнай вартай. У гэтым лагеры начавалі мы ўсяго адну ноч. Усю ноч прыбывалі эшалоны з Бабруйска і Жлобіна.

У гэтым лагеры, гаварылі, было каля 15 000 чалавек. У гэтым лагеры адбіралі працаздольных і адганялі ў другі бок. Пры гэтым амаль палавіну ўсіх збівалі палкамі. Білі за тое, што спрабавалі захапіць з сабой сухары, за тое, што прасілі піць і есці, і проста без усякіх прычын. З гэтага лагера гналі этапам, а некаторых падвозілі на машынах. Прывезлі ў лагер каля Азарыч. У гэтым лагеры мы жылі чатыры дні. Па ваду хадзіць не дазвалялі, не давалі дроў, забралі ўсякі інструмент — сякеры, лапаты і мініравалі сухое галлё.

Шмат тут людзей памірала. Па дарозе расстрэльвалі тых, хто не мог рухацца. Пры мне расстралялі двух старых. Ежы тут ніякай не давалі. Прадукты, што былі з сабой, немцы і паліцэйскія ў нас адабралі і спалілі. Перад тым як ісці, немцы ноччу, калі ніхто не бачыў, замініравалі ўсю плошчу вакол лагера. Раніцай мы ўбачылі, што аховы няма. Мы кінуліся бегчы. Многія трапілі на міны. З нашай вёскі падарваўся і загінуў стары гадоў 60 — Жлавец Сяргей і яго жонка 60 гадоў Аўдоцця, вельмі многа параніла, каго, я не ведаю...

**Публікацыя**
**І. КУЗНЯЦОВА.**

---

УЗНЯТА БАЛЮЧАЯ ПРАБЛЕМА

# ШТО РАБІЦЬ З БАМЖАМІ?

У красавіку ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома друку сталіцы адбыўся "круглы стол" па тэме: "Рашэнню праблем бамжоў -- увагу і клопат дзяржавы". Наогул пастаноўку гэтага пытання ў грамадстве ўжо можна лічыць падзеяй. На працягу дзесяцігоддзяў нам імкнуліся навязаць "аксіёму", што бамжоў, беспрацоўных, як і наркаманаў, прастытутак, прадстаўнікоў сексуальных меншасцяў, у краіне развітога сацыялізму ніяк быць не можа. У былыя савецкія часы ўсе гэтыя слаі насельніцтва разглядаліся як яскравыя прыкметы капіталістычнага ладу жыцця, які вядома ж, церпіць крызіс. Як ні сумна зазначаць, але менавіта па паказчыках развіцця і павелічэння вышэйзгаданых катэгорый насельніцтва на цяперашні момант мы вельмі хутка "інтэгруемся" ў сусветную супольнасць.

Бамжы, беспрацоўныя, алкаголікі і наркаманы — усё гэта частка нашай сумнай рэчаіснасці. Іх з'яўленне ў грамадстве можна патлумачыць маруднасцю эканамічных рэформаў, што безумоўна не магло не адбіцца і на сацыяльнай сферы. У сённяшніх варунках жыцця ўлады выглядаюць як няздольныя забяспечыць асобе годныя ўмовы існавання і абараніць правы кожнага грамадзяніна дзяржавы. Аднак ужо тое, што ініцыятыва "круглага стала" належыць кіраўніцтву Упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, сведчыць аб тым, што і ў калідорах вышэйшай улады падышлі да разумення: трэба неяк вырашаць праблему найменш абароненых прадстаўнікоў нашага грамадства.

У абмеркаванні і дыскусіі па пытаннях бамжоў узялі ўдзел Анатоль Курда -- кіраўнік службы Упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МУС, Аркадзь Чарніковіч -- намеснік кіраўніка згаданага ўпраўлення, Георгій Бутрым -- кіраўнік Упраўлення выхаваўчай працы Міністэрства асветы, адукацыі і навукі, Віктар Талстакораў, кіраўнік Упраўлення даходаў і ўзроўню жыцця Міністэрства працы, Зінаіда Паўловіч -- віцэ-прэзідэнт Беларускага Чырвонага Крыжа, Вольга Вайніла — галоўны ўрач-нарколаг Першамайскага раёна горада Мінска, журналісты, прадстаўнікі грамадскасці.

Узровень прадстаўніцтва гаворыць пра тое, што праблема вельмі сур'ёзная, патрабуе вывучэння і новых падыходаў, а таксама агульных намаганняў розных міністэрстваў і ведамстваў для яе вырашэння.

Наогул дыскусія пакінула больш пытанняў, чым дала адказаў на іх. Таму галоўнай мэтай сустрэчы можна пакуль лічыць толькі пастаноўку самой праблемы бамжоў у сродках масавай інфармацыі, каб прыцягнуць да яе ўвагу грамадскасці і ўрада і разам рушыць справу з месца.

Анатоль Курда, кіраўнік упраўлення МУС, адзначыў, што ў мінулым годзе ў прыёмніках-размеркавальніках Беларусі было на ўтрыманні 1 245 чалавек без жытла і працы, якіх можна лічыць бамжамі (з іх 216 -- жанчыны). Больш таго, ён адзначыў, што 90 працэнтаў -- людзі працаздольныя і фізічна здаровыя, 80 працэнтаў увогуле атрымалі адукацыю і маюць спецыяльнасці. Аднак замест працы для сябе яны выбіраюць крымінальны шлях і папаўняюць шэрагі злачынцаў. У мінулым годзе на ліку бамжоў 269 злачынстваў. Звыш 100 чалавек прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, пераважна за крадзеж. Відавочна, што галоўная ўвага была нададзена абмеркаванню пытання, чаму гэтыя людзі замест таго каб працаваць, ідуць жабраваць ды красці. Найбольш пераканаўчым можна лічыць адказ урача-нарколага Вольгі Вайніла. Яна паведаміла, што 90 працэнтаў бамжоў -- хворыя на хранічны алкагалізм, прычым 2-й і 3-й ступені. Асаблівую занепакоенасць выклікае жаночае п'янства, якое інтэнсіўна расце, і сёння з усіх зарэгістраваных алкаголікаў кожны чацвёрты -- жанчына. Увогуле, згодна з данымі, на кожнага беларуса (дарэчы, як і расійца) прыпадае ў сярэднім 25 літраў спірту ў год, а ў нармальнай цывілізаванай краіне гэтая лічба складае 6--8 літраў. На даны момант 100 тысяч грамадзян знаходзіцца на ўліку ў наркалагічным дыспансеры.

Яшчэ адна прычына, што вымушае людзей выбіраць бадзяжніцтва, -- нізкі ўзровень жыцця. Па словах супрацоўніка Міністэрства працы Віктара Талстакорава, раней, калі кожны працуючы на свой заробак мог пракарміць сябе і яшчэ аднаго ці двух чалавек, сёння грошай не хапае і на сябе. У выніку 50 працэнтаў сем'яў (кожная другая!), у якіх ёсць дзеці, жывуць цяпер ніжэй узроўню малазабяспечанасці. Дзе і як у такіх умовах шукаць паратунку?

Галоўнае, што магла б зрабіць тут дзяржава, — стварыць прававую базу для развіцця ў краіне малога бізнесу, каб кожны чалавек мог пракарміць сваю сям'ю і забяспечыць ёй годнае існаванне. Вырашэнне менавіта гэтай праблемы падаецца вызначальным і паменшыла б вастрыню іншых пытанняў, пра якія казалі прамоўцы. Па-першае, дабрабыт сям'і — гэта памяншэнне колькасці нешчаслівых шлюбаў, разводаў. Калі ў сям'і лад, то дзеці нараджаюцца нармальнымі, здаровымі (згодна са статыстыкай — 40 працэнтаў нованароджаных -- дзеці з адхіленнямі ў псіхіцы), падлеткі не будуць уцякаць з дому, яны не будуць "браць" кіёскі, каб з'есці шакаладку, злачынства абміне іх. (У мінулым годзе 10 тысяч крымінальных злачынстваў на рахунку непаўналетніх). Добрая праца і паўнавартасны заробак якраз і ёсць тая крыніца, якая можа спыніць папаўненне шэрагаў бамжоў, беспрацоўных, у першую чаргу сярод моладзі. На жаль, уражанне такое, што ўрад гэтага не разумее: заводы стаяць, прыватызацыя прыпынена, няма ўмоў для развіцця бізнесу, а цэны няспынна паўзуць угару.

У кожнай дзяржаве заўсёды ёсць невялікі працэнт людзей, для якіх якія б умовы ні стваралі, яны ўсё роўна працаваць не будуць. У цывілізаваных краінах даўно знайшлі ад такіх паратунак. Каб грамадства нармальна развівалася, а колькасць злачынстваў не павялічвалася, гэтым лайдакам выплачваюць дапамогу, якая забяспечвае ім больш-менш годнае існаванне.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ПРЫВІД БЕЛАРУСКАЙ ІДЭІ

# РЭЭМІГРАЦЫЯ

Некаторыя ўладкоўваліся на даволі высокія пасады ў розных сферах грамадскага жыцця, але пераважна ў навучальных і навуковых установах, бо мелі адпаведны ўзровень адукацыі. У адказ на такую ўвагу былыя эмігранты працавалі плённа, з вялікай аддачай, бо бачылі несумненную карысць ад сваёй дзейнасці для справы нацыянальнага адраджэння, якой многія з іх прысвяцілі не адзін дзесятак гадоў жыцця. Такая дзейнасць дазваляла надаць больш мэтанакіраваны характар тым кансалідацыйным працэсам, якія адбываліся ў працэсе развіцця беларускай нацыі на новым вітку яе гісторыі. Многае з таго, што выкладзена ў навуковых і публіцыстычных працах беларускіх палітычных і культурных дзеячаў, якія вярнуліся з-за мяжы, захоўвае сваю каштоўнасць і для нашага сённяшняга нацыянальна-культурнага Адраджэння. І, бадай, самае важнае, што зваротнікі з Захаду дапамаглі выпрацаваць больш правільную палітыку ўзаемаадносін Савецкай і Заходняй Беларусі, скіраваную на недапушчэнне расшчаплення адзінага беларускага этнасу на дзве часткі, што магло б стаць прычынай яго размывання магутнымі суседнімі народамі. Правільную пазіцыю па гэтым пытанні выказаў А.Цвікевіч: "Калі Беларусь у гэты час падзелена, калі паасобныя часткі адзінага народу часова ідуць рознымі шляхамі, і з прычыны гэтага між імі ўсё больш вызначаецца розніца ў культуры, побыце, эканамічнай і сацыяльнай структуры, дык задачай усіх сьвядомых працаўнікоў зьяўляецца супроцьстаўленьне гэтаму пагібельнаму дыфэрэнцуючаму працэсу якога-небудзь сынтэзу, якога-небудзь яднаючага, умацоўваючага пачатку. Гэтым пачаткам пры сучасных умовах можа быць толькі галіна культурнага супрацоўніцтва. Організацыя навуковых таварыстваў, узаемна вывучаючых Савецкую і Заходнюю Беларусь, адшуканьне пэўных шляхоў да наладжаньня чыннага супрацоўніцтва ў галіне эканомікі, узварушэньне кооперацыі і краязнаўчага руху, узаемнае вывучэньне і зьбіраньне матэрыялаў адносна транспарту і рынкаў, нарэшце абмен нацыянальнымі дасягненьнямі ў галіне мастацтва, тэатру і г.д. — вось тыя задачы, якія паўстаюць перад беларускімі працоўнымі на Захадзе і ў эміграцыі".

Прыведзеных вышэй фактаў дастаткова для сфармулявання высновы: сыны Беларусі вярнуліся дахаты не для таго, каб прычыняць шкоду свайму народу, а, наадварот, каб садзейнічаць яго нацыянальна-культурнаму Адраджэнню. Іх уклад у гэтую справу заслугоўвае самай высокай пахвалы. Адносіць іх, як гэта пісаў З.Жылуновіч, да нацыянал-дэмакратаў, якія "ўпарта і настойна працярэблівалі дарогу да інтэрвенцыі, зрываючы сацыялістычнае будаўніцтва і ставячы перашкоды пераможнаму прадзвіжэнью рабочае клясы, на чале з яе правадыром камуністычнаю партыяй, да сацыялізму" і памылкова, і недарэчна, бо займаліся яны не палітычнай дзейнасцю, а культурна-асветніцкай справай, ведаючы, як гэтым можна было многа зрабіць для духоўнага развіцця народа, паглыблення кансалідацыйных працэсаў у яго асяроддзі.

Трагізм лёсу ўсіх зваротнікаў з эміграцыі заключаецца ў тым, што як толькі на Беларусі зашугала полымя барацьбы з "нацдэмаўшчынай", яны першымі сталі ахвярамі савецкага правасуддзя. У пачатку 1931 года, згодна з рашэннем калегіі АДПУ БССР, усе колішнія члены Рады БНР былі высланы за межы рэспублікі. Нікому з іх не ўдалося застацца ў жывых. [illegible]рне масавых рэпрэсій 30-х [illegible]ў загінулі практычна ўсе, хто першым пракладваў шлях да дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Наш народ страціў людзей, якія ў іншых умовах маглі [illegible] прынесці яму велізарную карысць у самых розных сферах чалавечай дзейнасці, бо гэта былі не радавыя асобы, а буйныя палітыкі, вучоныя, прадстаўнікі культуры, асобы, якія вельмі любілі свой край, самаахвярна працавалі над яго адраджэннем і развіццём. Таму ёсць усе падставы ўхваліць пазіцыю тых вельмі абачлівых урадоўцаў БНР, якія беспамылкова прадчувалі ход далейшага развіцця падзей у Савецкай Беларусі і не пажадалі вярнуцца сюды, нягледзячы на ўсялякія запэўніванні і абяцанні з боку яе афіцыйных дзеячаў.

Не паддаўся бальшавіцкай агітацыі і Антон Луцкевіч, які з лістапада 1918 года ўзначальваў урад БНР, а ў 1919-м, як Беларусь захапілі белапалякі, стаў на чале Найвышэйшай рады БНР. Тая трагедыя, якой пазбег А.Луцкевіч у 30-я гады, усё ж напаткала яго пасля заканчэння другой сусветнай вайны. На жаль, сёння нам дакладна невядомыя ні дата, ні месца смерці выдатнага змагара за беларускую нацыянальную ідэю. Рэдка ў якіх краінах здараецца такое, каб радзіма не ведала месца пахавання сваіх слынных сыноў. У нас такое не рэдкасць. У мэтах выпраўлення становішча давялося ў 1991 годзе пасля перавозкі праху брата Антона Луцкевіча Івана (памёр у 1919 годзе) з польскага горада Закапанэ ў Вільню зрабіць тут на могілках Росы сімвалічную магілу двух братоў Луцкевічаў. Цяпер яна з'яўляецца месцам частых сустрэч беларусаў Вільні і тых, хто прыязджае сюды, каб пакланіцца праху змагароў за беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне.

Нікольki не сумняваўся ў бальшавіцкіх хітрыках прэзідэнт рады БНР у Празе Пётра Крэчэўскі, які назваў рашэнне Берлінскай канферэнцыі авантурызмам, здрадай незалежнасці Беларусі. Ва ўсім, што адбывалася на канферэнцыі, ён вельмі добра бачыў варожыя да беларускай нацыянальнай ідэі падкопы агентаў Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення -- папярэдніка Народнага камісарыята ўнутраных спраў. Такой жа пазіцыі прытрымліваўся Васіль Захарка, які пасля смерці ў 1928 годзе П.Крэчэўскага ўзначаліў урад БНР.

Абвешчаныя па волі некаторых кіруючых дзеячаў роспуск урада БНР і перадача яго паўнамоцтваў ураду БССР не паклалі канца дзейнасці за мяжой органаў дзяржаўнай улады беларускай эміграцыі. Ідэалы БНР і дзяржаўнай незалежнасці ніколі не паміралі ў асяроддзі беларускай эміграцыі. Жывуць яны і сёння, што асабліва яскрава праявілася ў час правядзення ў ліпені 1993 года ў Мінску Першага з'езда беларусаў свету.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук,**
**прафесар.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у NN 16-18.**



**16 гадоў не было на Палессі такой паводкі, якая здарылася сёлетняй вясной. У Брэсцкай вобласці асабліва пацярпеў Столінскі раён. Затоплены дзесяткі тысяч гектараў, у дваццаці вёсках апынуліся ў вадзе дамы, дваровыя пабудовы. Сёлетняя паводка непрадказальная і тым, што яна першая такой сілы пасля чарнобыльскай аварыі, і ніхто не ведае, як зменіцца радыяцыйнае становішча ў раёне, таму што і так прыборы ў многіх месцах Століншчыны паказваюць да 15 кюры радыяцыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: паводка ў вёсцы Харомск; вёска Атвержышчы.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



# ШТО РАБІЦЬ З БАМЖАМІ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

І як жа крыўдна, што беларусы, якія заўсёды вызначаліся працаздольнасцю і прафесійнасцю (прынамсі, значная частка з іх), застаюцца незапатрабаванымі ў сваёй уласнай краіне, мусяць набіваць свае валізкі смятанай, маслам і везці іх на продаж у Маскву ці іншыя гарады, каб не стаць жабраком, ці не далучыцца да бамжоў. Гэта пры тым, што на пачатку перабудовы Беларусь ішла другой пасля Чэхіі па долі валавога прадукта на душу насельніцтва.

Аркадзь Чарнікевіч, намеснік кіраўніка ўпраўлення МУС, на працягу размовы рабіў націск на тое, што кожны чалавек мусіць ствараць сваё шчасце сам і што словы: "Раньше думай о Родине, а потом о себе" згубілі сваю актуальнасць. Вельмі слушная заўвага, але не для посттаталітарнага грамадства гэта. Амаль стагоддзе нашым людзям падавалі дзяржаву як гаранта кавалка хлеба з маслам і каўбасой ды іншых выгод. Памяняць стары на новы стэрэатып грамадскай думкі вельмі няпроста і вымагае змены не аднаго пакалення. Працэсам развіцця дзяржавы, асабліва ў пераходны перыяд, павінны займацца грамадскія навукі ў асобах аналітыкаў, псіхолагаў, сацыёлагаў, палітолагаў. Менавіта яны павінны вывучыць, спрагназіраваць і акрэсліць усе хібы і цяжкасці, якія чакаюць розныя пласты насельніцтва ў новых умовах, падказаць, як абысціся меншымі ахвярамі ў іх пераадоленні.

Ніводнага прадстаўніка ад грамадскіх навук на "круглым стале" не было. Як мне патлумачыла дырэктар прэс-цэнтра спадарыня Бялова, пакуль няма ніводнай службы, якая б вывучала такія пытанні. Карацей кажучы, у вывучэнні узнятай праблемы наогул адсутнічае "пункт адліку". Менавіта таму ўдзельнікі заблыталіся нават у тым, каго лічыць бамжом, а каго не. Усе разам пагадзіліся, што не кожны бомж, хто просіць міласціну на вуліцы. Але засталіся адкрытымі пытанні, куды аднесці бежанцаў, у якіх ні даху над галавой, ні грамадзянства, ні прапіскі, ні працы. Куды аднесці нядаўніх знявоненых, у якіх у кішэні пуста і няма ні родных, ні хаты? У Беларусі 300 тысяч адзінокіх пенсіянераў, а сярэдняя пенсія складае 473 тысячы рублёў, якіх добра, калі хапае на тыдзень пасля аплаты за кватэру і камунальныя паслугі. Што чакае іх? Усё гэта рытарычныя пытанні, і іх можна задаваць бясконца. Патрэбны пэўны заканадаўчы падмурак, стварэнне спрыяльных умоў для развіцця эканомікі, прынцыпова іншыя падыходы да рэформаў. Улады, дзяржава павінны гэта зразумець і пачаць працаваць на сваю ж карысць разам з грамадствам, пакуль Беларусь не ператварылася ў краіну жабракоў і бамжоў, бо найбольш здольныя разбягуцца па свеце, туды, дзе ім дадуць працу, дах і годнае існаванне.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

НАДЗЕЯ ПАВІННА ЖЫЦЬ





**У дарогу па чарнобыльскіх мясцінах адправіўся цягнік "Надзея-Экспрэс" з грузам дабрачыннай дапамогі насельніцтву, якое жыве ў забруджанай радыяцыяй зоне. Арганізатары акцыі -- амерыканская дабрачынная арганізацыя "Сіці Хоуп Інтэрнешнл" і міжнародная грамадская дабрачынная арганізацыя "Надзея-Экспрэс". Цягнік з дзесяці грузавых і чатырох пасажырскіх вагонаў даставіць медыкаменты і медпрыналежнасці, прадукты харчавання, цацкі, адзенне на суму 2 мільёны долараў ЗША. Груз суправаджаюць амерыканскія і беларускія валанцёры, аркестр "БігБенд", дзіцячы хор.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: дабрачынны цягнік "Надзея-Экспрэс" вязе паравоз-ветэран з бартавым нумарам Л-0326; цягнік узначальвае прэзідэнт дабрачыннай арганізацыі "Сіці Хоуп Інтэрнешнл" Пол МОР.**

# САР'Я

**(НАРЫС З ГІСТОРЫІ МАЁНТКА І РОДУ ЛАПАЦІНСКІХ)**

Касцёл, асвячоны ў імя Св.Марыі, уяўляў сабой прамавугольную ў плане аднанефавую пабудову з пяціграннай апсідай і дзвюма невялікімі сакрысціямі. У галоўным і адзіным на ўвесь храм алтары знаходзілася скульптурная выява Божай Маці, якая была размешчана ў спецыяльнай нішы і асвятлялася зверху праз невялікае схаванае акно. "Статуя Божай Маці з гіпсавай масы ў рост чалавека" была зроблена па заказу ў Варшаве і ўяўляла сабой самую вялікую каштоўнасць касцёльнага інтэр'ера.

У чэрвені 1867 года варшаўскі штотыднёвік "Tygodnik Illustrowany", які часта змяшчаў на сваіх старонках інфармацыю аб найбольш цікавых помніках краю, надрукаваў невялікую ананімную нататку і пра касцёл у Сар'і, дадаўшы да яе графічную выяву самога храма. У гэтай нататцы знаходзім дадатковыя звесткі пра стылістычныя асаблівасці інтэр'ера касцёла: "Сам алтар, шэдэўр сталярнай работы, выкананы накшталт гатычнага саркафага з дубовага дрэва. За ім з такога ж дрэва ўзносіцца, быццам гатычная святыня,



цыборыум. Краты, амбон, хоры і г.д., усё ў самым чыстым гатычным стылі, ствараюць поўны гармоніі выгляд. Звонку касцёльныя могілкі з трох бакоў таксама абнесены гатычным мурам, а з вуліцы — кратамі з кованага жалеза".

Тагачасны выгляд Сар'янскага касцёла ў атачэнні высокіх дрэў прысядзібнага парку зафіксаваў на адной са сваіх акварэляў знакаміты мастак і музыкант мінулага стагоддзя Напалеон Орда, які шмат падарожнічаў па землях колішняй Рэчы Паспалітай і рабіў замалёўкі архітэктурных помнікаў, а таксама мясцін, звязаных з жыццём знакамітых людзей. Пазней кампазіцыі Н.Орды мастак Алаізы Місыровіч перанёс на літаграфічныя камяні, і на працягу 1873--1883 гадоў у друкарні Максіміліяна Фаянса ў Варшаве былі выдадзены 8 серый "Альбома гістарычных відаў Польшчы". Выява касцёла ў Сар'і заняла годнае месца сярод 260 графічных аркушаў выдання і да нашага часу цешыць вока бібліяфілаў ды аматараў старасветчыны Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Сар'янскі касцёл будавалі з цэглы, што выраблялася на цагельным заводзіку Ігната Лапацінскага, які знаходзіўся на адлегласці чвэрці вярсты ад маёнтка. Увогуле ўладальнік Сар'і меў вялікую ахвоту да новага будаўніцтва. Прычым, бровары, лядоўні, разнастайныя гаспадарчыя пабудовы і нават збудаванні для дваровых птушак у маёнтках І. Лапацінскага па жаданні гаспадара часцяком узводзіліся ў формах гатычнай архітэктуры. На яго думку, такая архітэктура больш адпавядала мясцоваму клімату і была таннейшай, бо не патрабавала тынкоўкі, якую потым амаль штогод трэба было б аднаўляць. Чалавек тонкага густу, Ігнат Лапацінскі знаходзіў у гатычных будынках і эстэтычную асалоду: натуральны колер добра перапаленай цэглы выклікаў у яго настрой меланхалічны і маркотны, навяваў успаміны пра каханую Марылю.

У чэрвені 1857 года ў Вільні скончыла свой зямны шлях Дарота Лапацінская. Састарэлая пані пажадала быць пахаванай на фамільных могілках побач з новым Сар'янскім касцёлам. Таму ў канцылярыі Магілёўскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі 29 чэрвеня 1857 года была заведзена спецыяльная справа "Аб перавозе цела памерлай памешчыцы Дароты Лапацінскай з г. Вільні ў Дрысенскі павет Віцебскай губерні". З ліпеня дазвол кансісторыі на перавоз цела нябожчыцы быў атрыманы. Хавалі пані Дароту ў Сар'і "пры вялікім сабранні народу" 6 верасня 1857 года. Адпяванне "з усімі абрадамі рымскай царквы" правёў дрысенскі дэкан ксёндз Шаблоўскі.

## 1863 ГОД

Асоба Ігната Лапацінскага вызначалася не адным толькі лагодным характарам, вытанчанай пачуццёвасцю і вернасцю ў каханні. У роўнай ступені яму былі ўласцівы актыўная грамадская пазіцыя і імкненне да чыннага ўдзелу ў палітычным жыцці краю. На працягу 1856--1859 гадоў дрысенская шляхта абірала Ігната павятовым маршалкам. Напярэдадні адмены прыгоннага права ён прымаў актыўны ўдзел у дэбатах і нарадах шляхты напачатку ў Віцебску, а з 1860 года -- у Вільні, калі жыў у падвіленскім маёнтку Кайраны. Па сваіх поглядах Ігнат Лапацінскі належаў да напаўлегальнай апа[illegible]ыі ўраду, якая дамагалася аднаўле[illegible] дзейнасці Статута Вялікага Княства Літоўскага, адкрыцця зачыненага Віленскага універсітэта, стварэння крэдытных і сельскагаспадарчых таварыстваў.

Нягледзячы на не[illegible]ьмі прыемную сутычку з афіцыйны[illegible] ўладамі падчас будаўніцтва новага касцёла, Ігнат Лапацінскі ў 1862 годзе ў радзіннай Сар'і самавольна адчыніў яшчэ і школку для дзяцей. За гэта ён быў прыцягнуты да адказнасці вайсковым судом, які засядаў у Дынабургу. Вырак суда быў жорсткі: высылка ва ўсходнія губерні імперыі. Аднак гэтае пакаранне па волі віленскага генерал-губернатара і камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі Міхаіла Мураўёва, больш вядомага пазней пад мянушкай "Вешальнік", было заменена на грашовы штраф у памеры 10 000 рублёў. Гэта была вялікая сума, але яна была выплачана Ігнатам з паспешнасцю, што, аднак, значна пахіснула агульнае фінансавае становішча яго сям'і.

Падчас паўстання 1863 года Ігнат Лапацінскі яшчэ да пачатку ваенных дзеянняў разам з пяццю іншымі асобамі ўваходзіў у склад "белага камітэта" Якуба Гейштара --кансерватыўна-ліберальнай групоўкі, у якую на Беларусі ўваходзілі пераважна памешчыкі. Пасля зліцця ў сакавіку 1863 года "камітэта белых" з "камітэтам руху" ён увайшоў у склад так званага "Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы", дзе ўзначаліў сектар прэсы і карэспандэнцыі. Пазней у сваіх мемуарах старшыня "Аддзела" Якуб Гейштар даў былому паплечніку наступную характарыстыку: "Ігнат Лапацінскі --натура ўражлівая, што значыць слабая, аднак адукацыя вышэйшая, разумовыя здольнасці вялікія, пяро добрае, гарачае і гладкае, бо тое, што пісаў, яму дыктавала сэрца, а галава змагла па-майстэрску выканаць".

Ігнат Лапацінскі быў аўтарам большасці пракламацый і адозваў, якія выдаваліся "Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы". Трэба думаць, што менавіта яго палымянаму пяру належала адозва ад 31 сакавіка 1863 года, якая заклікала насельніцтва Беларусі і Літвы да зброі. Прасякнутая палянафільскім духам, што быў уласцівы прадстаўнікам тагачаснага вышэйшага грамадства, яна ўтрымлівала гарачы заклік да вызвалення Айчыны ад расійскага прыгнёту. У ёй гаварылася: "Суайчыннікі ўсялякіх вызнанняў і станаў, браты Літвы і Русі! Ці ж насуперак гераічнай барацьбе за Нёманам, у якой найшляхетнейшая польская кроў сплывае шчодрым струменем, будзем далей ганебна згінаць карак пад ярмо маскоўскай няволі? Ці будзем абыякава глядзець, як Масква ўсё, што толькі найсумленнейшага і найшляхетнейшага, хавае ў цытадэлі або вывозіць у глыб Сібіры? Ці дазволім мы, каб паміж намі пасеялі кукаль нязгоды і нашы далоні ўзброілі братазабойчымі нажамі? О не, так не будзе!

Браты! Прабіла часіна апошняга бою. Літва і Русь, верныя абяцанню адзінства, паўстануць як адзін муж на бой за веру і вольнасць, за свабоду люду, на абарону ўласнай незалежнасці, на абарону парадку і цывілізацыі! У кім толькі б'ецца польскае сэрца, наперад, пад штандар Арла і братняй Пагоні! А прысягнуўшы сабе на любоў, адзінства і братэрства, выганем ворага з нашых межаў. Дык да зброі, браты! Да зброі!.."

Нягледзячы на тую прыкметную ролю, якую Ігнат Лапацінскі адыграў у кіраўніцтве паўстаннем, пасля яго падаўлення ён не быў прыцягнуты да адказнасці. Толькі аднойчы, у жніўні 1863 года, пад эскортам казакаў Ігната даставілі ў Вільню да губернатара Панюціна "обіясниться". Як адзначаў у сваіх мемуарах Якуб Гейштар, п[illegible]эгнуць кары Лапацінскаму тады ўд[illegible]ся па дзвюх прычынах: па-першае, ён меў рэпутацыю вельмі спакойнага чалавека, і, па-другое, яго імя не выдаў ні адзін з арыштаваных удзель[illegible]аў арганізацыі.

Пасля задушэння вызвольнага паўстання Ігнату Лапацінскаму давялося доўгі час жыць пад наглядам паліцыі ў падвіленскіх Кайранах, і толькі ў 1867 годзе ён атрымаў дазвол на выезд да Сар'і. У маёнтку яго ўжо чакалі пэўныя перамены.

Яшчэ вясной 1865 года віцебскі губернатар звярнуўся са спецыяльным прадстаўленнем да Міхаіла Мураўёва, які ў кіраванні так званым Паўночна-Заходнім краем меў надзвычай шырокія паўнамоцтвы: ён быў генерал-губернатарам Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў, а для Віцебскай і Магілёўскай губерняў з'яўляўся галоўным начальнікам. У прадстаўленні ішла размова аб неабходнасці "перапыніць лацінскае набажэнства" ў двух філіяльных касцёлах Дрысенскага павета -- Сар'янскім і Баліна-Чурылаўскім. Доўга пераконваць "Вешальніка" не прыйшлося. 25 ліпеня 1865 года ён накіраваў віцебскаму губернатару распараджэнне аб закрыцці абедзвюх філій, абгрунтоўваючы сваё рашэнне тым, што былі яны ўзведзены "без усялякай патрэбы сярод суцэльнага праваслаўнага насельніцтва, выключна ў мэтах распаўсюджвання лаціна-польскай прапаганды".

Выкананне пастановы аб ліквідацыі ўстаноў культу было даручана чалавеку свецкаму — дрысенскаму павятоваму вайсковаму начальніку. Каб надаць сваім дзеянням выгляд законных і выкліканых жыццёвай неабходнасцю, апошні загадаў правесці спецыяльнае "дознание" аб дзейнасці ксяндзоў Сар'янскага і Чурылаўскага касцёлаў. Зноў пачаліся апытанні навакольных сялян і шляхты, а ў тых, хто карыстаўся паслугамі каталіцкіх святароў, бралі пісьмовыя паказанні. Адзін з такіх дакументаў, датаваны 6 верасня 1865 года, захаваўся ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. У ім былі занатаваны паказанні шляхціца-католіка Вікенція Гутоўскага, які быў жанаты з праваслаўнай і жыў у вёсцы Бучанава, арандуючы кавалак зямлі ў селяніна. Пра сутнасць учыненага ім "злачынства" Гутоўскі распавядаў наступнае: "Каля Тройцы ў гэтым годзе нарадзіўся ў мяне ад жонкі маёй Ганны сын, які быў хвараваты. Таму што Асвейская парафіяльная царква знаходзіцца на адлегласці ад Бучанава 11-ць, а Сар'янскі касцёл толькі 6 вёрст, і дарога была дрэнная, аднёс я яго з сястрою маёю Зузанай да ксяндза Дабкевіча ў Сар'ю, узяўшы з прыезджых на Сар'янскі млын незнаёмага мне селяніна ў кумы".

Далейшае існаванне Сар'янскага касцёла было прызнана "весьма вредным для православия". Праз некалькі гадоў пасля яго закрыцця ў канцылярыі віцебскага грамадзянскага губернатара быў складзены дакумент, у якім акрэсліваліся прычыны ліквідацыі храма. Варта прывесці яго поўнасцю: "Нагодай да закрыцця Сар'янскага касцёла стала наступнае: а) што ён абкружаны праваслаўным насельніцтвам, аддаленым ад сваёй парафіяльнай царквы, і знаходзіцца ў цэнтры Сар'янскай воласці; б) што рыма-каталіцкая прапаганда ксяндзоў увесь час умешваецца ў тыя сем'і сялян, якія маюць дзяцей ад змешаных шлюбаў; ксяндзы хрысцяць іх па рыма-каталіцкаму абраду; дзяцей, хрышчаных праваслаўным святаром, якіх прыводзяць маці-каталічкі, спавядаюць і прычашчаюць Св. Тайнаў у касцёлах; зводзяць у каталіцтва тых, хто ўжо прыняў праваслаўе; самі сяляне, пры аддаленасці праваслаўных цэркваў, рупліва наведваюць касцёл, выконваюць усе рыма-каталіцкія абрады і ўшаноўваюць святы ў дні, устаноўленыя рымскай царквой; в) гэтаму заняпаду праваслаўя спрыяюць, апроч колькаснай перавагі рыма-каталіцкіх богаслужэбных будынкаў, размешчаных у мясцовасці гэтай парафіі, беднасць праваслаўнай царквы, прывабнасць вонкавага выгляду касцёла і частае адпраўленне набажэнства".

Такім чынам, лёс Сар'янскага касцёла быў вырашаны. 27 верасня 1865 года ён быў зачынены, дзверы яго апячатаны, а ключы перададзены дрысенска-асвейскаму благачыннаму айцу Ігнатовічу. Сар'янскі касцёл перайшоў у падпарадкаванне праваслаўнага ведамства і праз некалькі гадоў мусіў стаць царквой.

Ігнату Лапацінскаму цяжка было прымірыцца з такім паваротам справы. Пасля таго, як у сакавіку 1868 года інжынер Феттэр, а ў жніўні таго ж года губернскі архітэктар Фурман наведалі Сар'ю з мэтай агляду будынка былога касцёла, пераробкі яго на праваслаўную царкву, ён падаў прашэнне на імя галоўнага начальніка Віцебскай і Магілёўскай губерняў (на той час гэту пасаду займаў ужо генерал-ад'ютант Патапаў). У сваім прашэнні Лапацінскі выказваў жаданне вярнуць сабе Сар'янскі касцёл як сямейную грабніцу і паведамляў аб тым, што гатовы ахвяраваць грошы на праваслаўную царкву. Прашэнне гэтае, аднак, было пакінута без належнай увагі. Таму ў лістападзе месяцы Ігнат Лапацінскі падаў скаргу ў Правячы Сенат, у якой выказаў сваю нязгоду з "распараджэннем галоўнага начальніка Паўночна-Заходняга краю адносна абарачэння для грамадскага богаслужэння ўзведзенага ім надмагільнага будынка ў гонар яго сямейства". 31 студзеня 1869 года выйшаў указ яго Імператарскай вялікасці, самадзержца ўсерасійскага, у якім паведамлялася аб тым, што скарга Лапацінскага разглядалася ў Сенаце, а дзеля канчатковага вырашэння справы галоўнаму начальніку краю было загадана даслаць у Пецярбург "падрабязныя па гэтаму звесткі са сваім заключэннем".

Тым часам у духоўнай кансісторыі справы ішлі сваім парадкам. З дазволу Свяцейшага Сінода 28 лютага 1869 года новая царква (а колішні касцёл) у Сар'і была асвячона ў імя Успення Прасвятой Багародзіцы, і пры ёй была створана самастойная парафія. Храм патрабаваў бягучага рамонту і некаторых пераробак інтэр'ера.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ:** дрысенскі маршалак Ігнат ЛАПАЦІНСКІ.

**Працяг.**
**Пачатак у NN 16 - 18.**

# ЗА ВАШЫМІ ФАРБАМІ БАЧЫМ БЕЛАРУСЬ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Ідэя зацікавіла, дамовіліся пашукаць калег. А неўзабаве, гэта было ў студзені 91-га года, у майстэрні Вячкі Целеша ў Рызе сабраліся мастакі з Эстоніі, Санкт-Пецярбурга, Латвіі. З-за крывавых падзей, якія адбываліся ў той час у Вільні, не змаглі прыехаць Алег Аблажэй і Крысціна Балаховіч з Літвы, але яны пацвердзілі сваё членства ўдзелам у першай выставе. Старшынёй аб'яднання абралі Вячку Целеша, сакратаром -- мастачку Маргарыту Астравумаву з Эстоніі.

Цяпер аддзяленні "Маю гонар" апрача Латвіі ёсць у Эстоніі, Літве, Санкт-Пецярбургу. Кожнае можа ладзіць выставы як у сябе дома, так і па-за межамі. У апошні час рабіць гэта складаней. Праблемы з візамі, мытняй не дазволілі прыняць удзел у юбілейнай выставе пецярбургскім мастакам. Затое на юбілейнай выставе мы змаглі ўбачыць новых членаў аб'яднання — маладога самабытнага рыжаніна Міколу Гаўрыловіча і беларуса з Швецыі Яна Кузьміцкага.

У перспектыве аб'яднанне спадзяецца на папаўненне ці, дакладней, расшырэнне: мастакі-беларусы ёсць у Польшчы, Калінінградзе, магчыма знойдуцца яны ў Германіі. Пакуль жа геаграфія аб'яднання — Балтыка, ад Літвы да Швецыі.

Але сэрца "Маю гонар" па-ранейшаму — Рыга. Сюды, як кажуць, вядуць усе шляхі аб'яднання, і адсюль пачынаюцца дарогі. Менавіта тут, у Рызе, адбыўся першы ўстаноўчы з'езд аб'яднання, з Рыгі пачалася першая выстава, яна адкрылася восенню 1991 года ў залах былога Музея рэвалюцыі (цяпер гэта Ваенны музей), потым была Эстонія, а ў 1992 годзе яна экспанавалася ў Доме мастацтваў, што на праспекце Скарыны ў Мінску. Менавіта ў Рызе самае значнае аддзяленне (у сёлетняй выставе прынялі ўдзел усе сем чалавек), і ў Рызе пражывае старшыня аб'яднання мастак Вячка Целеш, ініцыятар юбілейнай выставы.

Адзін у полі не воін — сцвярджае народная мудрасць. Воін, вырашыў Вячаслаў Міхайлавіч, калі даведаўся, што на ахвяраванні ад суайчыннікаў на правядзенне выставы разлічваць не даводзіцца. І хоць раней ад дзяржаўных структур аб'яднанне падтрымкі не атрымлівала, менавіта да іх старшыня вырашыў звярнуцца за дапамогай. У выніку фундатарамі выставы сталі Міністэрства культуры Латвіі, Латвійскі фонд культуры, аддзел па нацыянальных пытаннях Міністэрства юстыцыі Латвійскай Рэспублікі. І на адкрыццё выставы павіншаваць беларускіх мастакоў прыйшлі прадстаўнікі абодвух міністэрстваў, Саюза мастакоў і Саюза пісьменнікаў. Шкада, што з Беларусі гасцей не было, хоць яны і чакаліся.

А дзе ж сустрэцца землякам, як не на вернісажы. Павітаць юбіляраў прыйшлі і беларускі пасол спадар Валянцін Вялічка, і вучні рыжскай беларускай школы, сябры беларускіх суполак з Рыгі "Світанак" і "Прамень", прыехалі прадстаўнікі даўгаўпілскага "Уздыму" і асацыяцыі беларускіх прадпрымальнікаў Латвіі. Не абмінулі ўвагай юбілей беларускія паэты — Уладзімір Дзегцярук з Эстоніі і Станіслаў Валодзька з Даўгаўпілса.

Наш гор... выставамі надта не здзівіць ...рэзамі асабліва не ўразіць. І тым прыемней, што юбілей аб'яднання прыцягнуў да сябе ўвагу не толькі беларусаў. Заўважылі "Маю гонар" і ла... ...кія сродкі масавай інфармацыі, якія звычайна пры асвятленні культурнага жыцця нацыянальных меншасцей асаблівай актыўнасцю не вызначаюцца.

Некалькі слоў, што датычаць непасрэдна самой выставы.

У экспазіцыі прадстаўлена каля 40 твораў жывапісу, графікі, прыкладнога мастацтва. Алег Аблажэй, Крысціна Балаховіч, Маргарыта Астравумава, Вячка Целеш, Мацей Чырыч, Ганна Зашчырынская, Мікалай Гаўрыловіч, Ларыса Лойка, Васіль Малышчыц, Тамара Насенка, Кацярына Вольская, Янка Кузьміцкі -- мастакі цікавыя, мастакі розныя. І ўсё ж такі апрача чалавечай, грамадзянскай ёсць яшчэ і прафесійная рыса, якая яднае гэтых дванаццаць мастакоў. Вось як вызначыў яе ў адным са сваіх інтэрв'ю Вячка Целеш: "Мы імкнемся ў гэтыя цяжкія, пераломныя гады ствараць яркія, аптымістычныя карціны. У нас няма крыклівых і змрочных работ. У нашых карцінах адчуваецца надзея".

Ці так гэта, у бліжэйшы час змогуць высветліць і мінчане. Летам гэтага года аб'яднанне збіраецца прыняць удзел у выставе беларусаў-мастакоў замежжа. Нам жа застаецца пажадаць ім творчага натхнення і далучыцца да слоў прызнання паэта з Эстоніі Дзегцярука:

**І ў цёплае лета,**
**і ў стылую зіму,**
**І нават падчас сярод сну**
**за вашымі**
**фарбамі бачу Радзіму**
**Святую, для нас усіх адну.**
**Яна вас не песціць, дый гэта ж нічога,**
**Суцешцеся ж словам маім:**
**Вы маеце гонар, а гэта ўжо многа,**
**Каб моцна стаяць на сваім.**
**Трывайце ж ды ведайце:**
**вашы ўсе фарбы**
**Патрапяць калісь да яе.**
**Бо сэрца не траціць набытыя скарбы,**
**Калі іх душа аддае.**
**Бо вас тут яднае**
**не Балцкае мора,**
**А нашай Радзімы алей,**
**Прыміце ж мой верш як**
**падзяку за творы**
**І крочце з натхненнем далей.**

**Таццяна КАСУХА,**
**сябра "Світанка".**

Рыга.

**НА ЗДЫМКУ:** члены аб'яднання мастакоў Балтыі "Маю гонар".



# ЯКУЮ КНІГУ ЛІЧЫЦЬ РЭДКАЙ?

"Якіх жа крытэрыяў вы прытрымліваецеся пры залічэнні кніг у фонд рэдкіх?" -- спытаўся Ніл Гілевіч, пераступіўшы парог аддзела рэдкіх кніг бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры, ды не з пустымі рукамі, а з выданнямі са свайго кнігазбору: "Новым полным самоучітелем французского языка", "Русской устной словесностью" М.Сперанскага, а таксама з аўтарскім падарункам, кнігай-малюткай васьмірадкоўяў "Святлынь", тым самым, зразумела, апярэдзіўшы адказ на пытанне, бо выданні казалі самі за сябе, удала ўпісваючыся ў калекцыйны фонд аддзела, які прадстаўлены друкамі па разнастайных галінах ведаў з храналагічным ахопам XVIII — сярэдзіны XX стагоддзяў.

Аддзел рэдкай кнігі бібліятэкі БУК, створаны ў 1993 годзе, з'яўляецца трэцім па ліку сярод бібліятэк вышэйшых навучальных устаноў. У сваёй дзейнасці супрацоўнікі аддзела ў першую чаргу арыентуюцца на захаванне, зберажэнне рарытэтаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, іх навуковае вывучэнне, выкарыстанне ў культурна-асветных і вучэбных мэтах. Асабліва можна вызначыць такі накірунак у рабоце, як фарміраванне калекцыйных збораў. І ў першую чаргу "Беларусікі", у якой выдзяляюцца прыватныя кнігазборы М.Грынчыка, Г.Барышава, Н.Цацулінай, А.Мальдзіса і іншых.

Вельмі дбайна ставіцца да аддзела дэкан факультэта бібліятэчна-інфармацыйных ...тэм А.Трусаў, дапамагаючы ...ладжваць як сувязі па кнігаабмену, так і папаўняючы фонд бібліятэкі літаратурай са свайго кнігазбору. У калекцыі Трусава — выданні гісторыка-...раязнаўчыя, археалагічныя, грамадска-палітычныя на беларускай, рускай, польскай, літоўскай і іншых мовах, так ці інакш звязаныя з Беларуссю. Акрамя кніг можна вылучыць і перыядычныя выданні з Польшчы (беластоцкая газета "Ніва"), Літвы (газета "Возрождение. Atgimimas"), Украіны ("Нескорені", "Шлях перемогі") і інш.

У першыя месяцы гэтага года аддзел рэдкай кнігі атрымаў цікавыя выданні з суседняй Літвы (ад Віленскага і Каўнаскага універсітэтаў, ад Беларускага пасольства ў Літве), якія ўвойдуць у склад калекцыі "Lituanika".

Фонд перыёдыкі папоўніўся таксама дзякуючы В.Скалабану, які ахвяраваў копіі газеты "Бацькаўшчына" (Мюнхен. 1947—1972, NN 1—632), ды яшчэ даведнік "Документы Национального архивного фонда Республики Беларусь в Национальной библиотеке и музеях системы Министерства культуры и печати Республики Беларусь".

Адным з апошніх падарункаў аддзелу рэдкай кнігі былі выданні Фонду імя Фрыдрыха Эберта, літаратура з кнігазбору спадара Г.Штыхава і спадара У.Міхнюка па археалогіі і гісторыі. Незвычайная па глыбіні разумення сучасных праблем кніжнай культуры адбылася сустрэча супрацоўнікаў аддзела з пісьменнікам Я.Будзінасам — кнігавыдаўцом такой літаратуры, як "Музыка сям'і Ельскіх", "Здубавецця" Р.Барадуліна, "Евангелие от русских поэтов" і інш. Выданні "Поліфакта" паклалі, будзем спадзявацца, пачатак калекцыі ўжо сучасных прыватных прадпрыемстваў.

У аддзеле рэдкай кнігі клапоцяцца як аб папаўненні і раскрыцці фонду, так і вядуць навукова-бібліяграфічную працу. Складзены бібліяграфічныя паказальнікі, прысвечаныя дзеячам навукі і культуры Беларусі, прафесарам БУК М.Грынчыку і Г.Барышаву, а таксама Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі Мітрапаліту Філарэту (Вахрамееву) і інш. Супрацоўнікі аддзела займаюцца навуковай працай у галіне кнігазнаўства і гісторыі кнігі ў Беларусі, распрацоўваючы тэмы па тыпалогіі і гісторыі рэлігійнай кнігі Беларусі, кнігавыдавецкай дзейнасці ў Мінску ў XVIII — пачатку XX стагоддзяў.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ЛЮБАНЬ -- НЬЮ-ЙОРК-- ЛЮБАНЬ

16 красавіка 1996 года ў г.Любань Мінскай вобласці адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку былой сінагогі. Гэтай падзеяй ушаноўвалася памяць любанскага рабіна Мошэ Файштэйна (1895 -- 1986), славутага яўрэйскага рэлігійнага дзеяча.

М.Файштэйн нарадзіўся ў мястэчку Узда Мінскай вобласці ў сям'і рабіна. Адукацыю атрымаў у розных іешывах Беларусі (іешыва -- рэлігійная яўрэйская школа). Рабінам Любані быў у 1920--1936 гадах, праслед з боку НКУС прымусіў эмігрыраваць за мяжу.

Ураджэнец беларускай зямлі жыў у Нью-Йорку, займаўся тэарэтычнай, практычнай рэлігійнай дзейнасцю. Яго высока цанілі як спецыяліста ў галіне іудзейскага права, М.Файштэйн зрабіў значны ўклад у справу аб'яднання амерыканскіх яўрэяў-іудзеяў.

Для яўрэяў усяго свету М.Файштэйн заўсёды застанецца духоўным лідэрам нацыі, якім, напрыклад, для індусаў быў М.Гандзі. Пахаванне М.Файштэйна ў Ізраілі прыцягнула 200 тысяч чалавек, што прыйшлі развітацца са сваім любімым настаўнікам.

Адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў Любані сведчыць пра кантакты паміж яўрэйскім і беларускім народамі.

**Святлана САЧАНКА.**

*СЯРОД КНІГ*

# ПРА ЧАС, КАЛІ ПРАДАВАЛАСЯ РАДЗІМА

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла новая кніга Уладзіміра Караткевіча. Так, новая, хаця ўжо амаль дванаццаць гадоў, як пісьменніка няма сярод жывых. А кнігі выходзяць. У 1985 годзе -- эсэ "Мсціслаў". Яшчэ праз год -- кніга паэзіі "Быў. Ёсць. Буду". У 1988 годзе -- зборнік п'ес "Старыя беларускія хронікі". Следам -- кніжнае выданне аповесці "У снягах драмае вясна". Былі і іншыя кнігі, праўда, перавыданні. А яшчэ ж у 1991 годзе было завершана выданне 8-томнага збору твораў У.Караткевіча (праўда, 8-мы, заключны, том выйшаў у свет у 2-х кнігах). І цяпер вось увазе чытачоў прапанаваны фактычна працяг збору твораў, ці 10-ты яго том. Разам сабраны тыя рэчы, што (за выключэннем аповесці "У снягах драмае вясна") не выходзілі раней кніжнымі выданнямі. Можна падкрэсліць і наступнае паяднанне твораў -- усе яны (за выключэннем, магчыма, толькі эсэ пра мову, уключанага ў вядомую кнігу А.Бембеля, выдадзеную ў Лондане) ніколі не друкаваліся пры жыцці пісьменніка.

Адкрываюць кнігу "Творы", рупліва ўкладзеную вядомым караткевічазнаўцам А.Вераб'ём, легенды ("Маці ветру", "Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах сатаны..."). Напісаныя Караткевічам на пачатку творчасці, рэчы гэтыя ўражваюць у адначассе сваёй мастацкай глыбінёй, грамадзянскай завостранасцю. Адбываецца дзіва дзіўнае. Ад старонкі да старонкі ўсё глыбей сягаеш у тканіну мастацкага твора. Часам нават губляеш сюжэтную канву. Але ж у гэтыя мінуты, секунды паяднаны з кожным словам, кожным сказам. Яны

У АРТЫКУЛЕ "Раскажам пра Рамуальда Зямкевіча" ("Голас Радзімы", N 12-17) Генадзь Кісялёў згадвае ліст беларускага збіральніка, у якім ён распавядае аб сваім жыцці, напісаны, як адзначае аўтар артыкула, невядомаму адрасату ў 1909 годзе. У час работы ў Архіве старажытных актаў у Варшаве мне давялося вывучыць беларускую калекцыю вядомага збіральніка, літаратуразнаўцы, пісьменніка Аляксандра Ельскага. Сярод вялікай колькасці цікавых лістоў, нататак, накідаў трапіліся і лісты Рамуальда Зямкевіча да А.Ельскага. Адзін з гэтых лістоў, а дакладней, фрагмент ліста, і цытуе ў сваім артыкуле шаноўны Генадзь Кісялёў. Падаецца, што чытачам "Голасу Радзімы" будзе цікава пазнаёміцца са змесцам другога ліста Р.Зямкевіча і заканчэннем першага з лістоў.

Але спачатку некалькі слоў аб адрасаце. Аляксандр Ельскі -- чалавек, варты кнігі, і не адной. Імя гэтага руплівца на ніве беларушчыны пакуль што, як, дарэчы, і імя Зямкевіча, мала вядомае шырокаму чытачу.

Аляксандр Ельскі (1834--1916) -- ураджэнец маёнтка Дудзічы Ігуменскага павета Мінскай губерні. Паўстагоддзя ён аддаў вывучэнню беларускай літаратуры, збору знакамітых калекцый старажытнасцей, бібліятэкі ў сваім маёнтку Замосце на Ігуменшчыне. Ельскі быў аўтарам больш за тысячу артыкулаў, брашур, літаратурных твораў, ён займаўся краязнаўствам, этнаграфіяй, мовазнаўствам і іншымі галінамі навукі. Сучаснікам добра вядомыя былі ягоныя пераклады на беларускую і польскую мовы. Ён быў супольнікам некалькіх навуковых таварыстваў. Знакамітая калекцыя Ельскага (каля 20 тысяч старажытных рукапісаў, больш за тысячу рэдкіх і каштоўных гравюр і графічных лістоў, нумізматычная калекцыя, творы жывапісу XVII--XIX стагоддзяў, фарфор) была вывезена ў Польшчу і раскідана па розных музеях. Абставіны гэтай падзеі вядомыя і звязаны як з дзейнасцю нашчадкаў Ельскага, так і з падарункамі самога збіральніка. На жаль, у час вайны значная частка калекцыі загінула.

Але вернемся да лістоў Р.Зямкевіча. Аляксандр Ельскі ў канцы XIX-пачатку XX стагоддзяў быў адной з тых асоб, вакол якіх гуртаваўся беларускі рух. Ён вёў ажыўленую перапіску з многімі маладымі беларусамі, раскіданымі па вялікіх абшарах Расійскай імперыі. Адным з такіх быў і Зямкевіч. Першы ліст малады Рамуальд Зямкевіч напісаў Ельскаму 21 траўня 1909 года. Яго і згадвае Г.Кісялёў у сваім артыкуле. Паведамiўшы аб сваім жыцці ў якасці настаўніка ў сям'і Свяніцкіх у Казіміраве -- ваколіцы Зембіна Мінскай губерні, Зямкевіч пасля апавядзе пра сваю работу для Федароўскага і захапленне беларушчынай прыгадвае некаторыя

на яе навел украінскага пісьменніка Васіля Стэфанюка. Дарэчы, гэты ліст Зямкевіча ўтрымлівае важную для збіральнікаў інфармацыю: у аднаго з яго сяброў у той час была адна з першых беларускіх кніжак, а дакладней, катэхізіс, складзены для католікаў, якія гавораць па-беларус-

ВОДГУЛЛЕ

# ДВА ЛІСТЫ РАМУАЛЬДА ЗЯМКЕВІЧА



кнігі, якімі ён захапіўся. Сярод пісьменнікаў яго надзвычай зацікавіў Дунін-Марцінкевіч, творы якога Зямкевіч меў усе ў першых выданнях, акрамя "Пана Тадэвуша", "якога ніколі ня бачыў". Зямкевіч меў на ўвазе пераклад твора Адама Міцкевіча, забаронены цэнзурай. "Пан Тадэвуш" у перакладзе Дуніна-Марцінкевіча на беларускую мову з-за цэнзурных забаронаў [illegible] не быў надрукаваны. і, здаецца, [illegible]ваны недзе ў архівах. Дарэчы, менавіта гэты пераклад, напісаны лацінкай, стаў падставай для забароны друкавання па-беларуску лацінскімі літарамі. Зямкевіч у той час сам захапіўся перакладчыцкай дзейнасцю і, як ён паведамляе Ельскаму, каб лепш вывучыць беларускую мову, зрабіў пераклад

ку, выдадзены ў Вільні ў 1835 годзе. Пра гэтую кнігу, дарэчы, згадваў Ян Чачот у сваіх "Песенках..." у 1846 годзе.

Другі ліст, напісаны праз тры гады, адкрывае перад намі перыяд у ж[illegible]ці Рамуальда Зямкевіча, які, на жал[illegible]е адлюстраваны ў артыкуле Генадзя Кісялёва. Дзякуй лёсу, што не ўсе дакументы загінулі, нават калі яны знаходзяцца за мяжой ці на д[illegible]м канцы свету, беларусам не пры[illegible]чайвацца збіраць расцярушаную войнамі маёмасць.

За прайшоўшыя гады Зямкевіч так і не здолеў спаткацца з Ельскім, хаця ўжо ў першым лісце прасіў яго аб гэтым. Ён ужо жыў у Варшаве, быў актыўным дзеячам "Беларускага гуртка" ў гэтым горадзе (гл. здымак). Гэты здымак з каментарыямі Зямкевіч даслаў Ельскаму. Здаецца, пакуль што ў нашым друку яго яшчэ не было.

У гэтым лісце (ад 29 ліпеня 1912 года) Зямкевіч паведамляе, што каля шасці месяцаў працаваў у рэдакцыі "Нашай нівы", але пасварыўся з некаторымі яе працаўнікамі і кінуў гэтую работу. Дарэчы, не вельмі простыя стасункі складваліся з рэдакцыяй "Нашай нівы" і ў Аляксандра Ельскага. Як можна меркаваць з ліста, канфлікт адбываўся на глебе палітычнай дзейнасці і асабістых прэтэнзій да івана Луцкевіча.

Зямкевіч ужо на працягу некаторага часу працаваў над гісторыяй беларускай літаратуры. У 1912 годзе ён зацікавіўся Аляксандрам Рыпінскім, але матэрыялаў аб пісьменніку было надзвычай мала. Таму менавіта ў гэтым лісце ён, спасылаючыся на парады Федароўскага, просіць Ельскага дапамагчы ў пошуках гэтых матэрыялаў, падказаць, дзе шукаць. Зямкевіч паведамляе, што ён прыдбаў працу А.Рыпінскага "Беларусь", якая была выдадзена ў Парыжы ў 1840 годзе, а таксама мае рукапіс Рыпінскага "Нячысцік" рукі самога аўтара. Акрамя А.Рыпінскага, Зямкевіч цікавіўся таксама А.Вярыга-Дарэўскім і Р.Падбярэскім. У апошняга, па звестках Зямкевіча, пры арышце паліцыя канфіскавала мноства беларускіх рукапісаў. Нагадаем, што Рамуальд Падбярэскі быў вядомым журналістам, выдаваў беларускі часопіс "Незабудка" і польска-беларускі "Рочнік літэрацкі".

Да ліста Зямкевіча, акрамя фотаздымка, былі прыкладзены копіі беларускіх вершаў, а таксама праца Зямкевіча аб Адаме Кіркоры. Яны захаваліся ў калекцыі Ельскага.

На жаль, невядома, ці працягвалася перапіска Зямкевіча і Ельскага. Больш лістоў у фондзе Ельскага ў Варшаўскім архіве няма. Магчыма далейшыя пошукі дадуць плён і адкрыюць яшчэ адну старонку з жыцця нашых выдатных землякоў.

**НА ЗДЫМКУ: стаяць злева направа: Віктар ГАЛАЎНЯ, Вітольд ВІСЛАВУХ, Рамуальд ЗЯМКЕВІЧ, Лявон ДУБЯЙКОЎСКІ, Францішак ВІСЛАВУХ, Альбін ЯХАНДОВІЧ, Людвіг СЛАВІНСКІ, Гальяш ЛЕЎЧЫК.**

**Сядзяць злева направа: Ванда КАНДАРЦКАЯ, Марыя СТАЛЫХВА, Марыя ЗАЛЕСКАЯ, Уладыслаў СТАЛЫХВА, Восіп ГАПАНОВІЧ. Унізе дзеці: Паўлік, Маня і Геня СТАЛЫХВЫ.**

**Святлана СЯЛЬВЕРСТАВА-КУЛЬ.**

---

— асобныя сказы, кароткія абзацы — велізарная планета. Як прыкладам -- і гэтая планета (з легенды "Маці ветру"): "Прадавалася Радзіма.

Яна прадавалася з беднаю сваёю зямлёй, са старажытнымі пушчамі, з блакітным крышталем рэк і квітнеючымі лугамі, з вадою і небам, замкамі і халупамі, з матчынай ласкай і ўсмешкай дзіцяці, з мудрымі дзядамі і пяшчотнымі дзяўчатамі, з камянямі старажытных будынкаў, з крывавай гісторыяй народа, з яго сучасным і будучым, з яго воляй.

Прадавалася радзіма.

Яна прадавалася цалкам і ўразбіўку, за грошы і напавер. Прадавалася кожным, хто не ленаваўся, і кожнаму, хто пажадаў бы, крывадушнаму другу і крыважэрнаму ворагу.

Даражэй прадаваліся правы феадалаў на ўладу, танней -- вера і зусім танна -- чыстая, як золата, беларуская мова.

Не спяшаючыся шукаць паралелі напісанаму яшчэ ў 1956 годзе, заўважу як уласнае адкрыццё наступную акалічнасць: праўда (калі яна праўда!) пра часы мінулыя ёсць адзнака і дню сённяшняму. Такое хіба ж на адзін толькі часавы адрэзак, пра адно толькі пакаленне: "Адсячэнне галавы і калесаванне зрабілся звычайнаю справаю, і маўчанне было глыбокім, а падзенне нізкім. Трупы галоты былі ўсюды: на шыбеніцах, на дне сажалак, у каменных мяшках.

і кожан баяўся сказаць слова..."

Мастацкасць, мастацкая праўда заўсёды ідуць поплеч з трывогай. Спакой і веселосць могуць прысутнічаць хіба што ў творах рыхлых, якія адлюстроўваюць праўду партыйных сходаў, а не праўду жыцця.

Многія адкрыцці -- жыццёвыя, грамадзянскія -- у аповесці "У снягах драмае вясна" падаюцца па сённяшнім часе наіўнымі, Але ж не трэба забывацца, што напісаны твор у 1957 годзе. Напісаны, відавочна, пад уражаннем падзей 1953--1956 гадоў. А той перыяд не мог не настройваць на эмацыянальнае, радаснае ўспрыняцце жыцця. Таму і крышачку прымітыўным падаецца адлюстраванне студэнцкага жыцця. Ды толькі прымітывізм ці, хутчэй, наіўнасць не адмаўляюць твору ў шчырасці мастацкіх, чалавечых памкненняў літаратара.

Прадстаўнічым у новай кнізе з'яўляецца раздзел "Апавяданні". У "Завеях" (напісаных, магчыма, у 1958 годзе) -- гісторыя салдата, які праз снег, праз сцюжу сапраўды прарываўся дахаты на пабыўку. Прызнацца, з самага пачатку твора да знаёмства з кожным радочкам рухала спадзяванне, што вось раптам наперадзе чакае канфлікт, нешта нечаканае. Але ж нічога, акрамя сустрэчы з любімай, акрамя тэлеграмы, што патрабавала вярнуцца ў часць, так і не здарылася. Словам, апавяданне не караткевічаўскае (у сэнсе: сталы Караткевіч наўрад ці так бы напісаў). Хутчэй перад намі -- абразок, эцюд, накіды да апавядання. Затое -- багаты на рух слова эцюд. У. Караткевіч так вобразна апісвае завею, што здаецца, быццам і сам прысутнічаеш у той снежнай прасторы, сам караскаешся. З цікавасцю чытаецца апавяданне "Лясная гісторыя". Сябры жорстка пакаралі браканьера. Прывязалі яму за плечы лату даўжынёй метраў дзесяць, быццам крылы. і рукі прывязалі да латы. Вось і вымушаны быў браканьер дваццаць кіламетраў ісці, паўзці два дні і дзве ночы. Жорстка? А хіба ж не жорстка парушыць такое: "...ласіха вялізнымі крокамі адбегла ад возера (хмызняк затрашчаў) і цяжка павалілася на зямлю. Потым павольна-павольна ўстала. З нагі яе лілася кроў. Ласянё, задаволенае тым, што маці стаіць спакойна, хутка падбегла і пачало смактаць. Яно было даволі вялікае, але яшчэ зусім дурное, гэтае ласянё..." Пісьменнік не асуджае сваіх герояў. А вуснамі аднаго з іх завяршае сваю "Лясную гісторыю": "Ён ішоў, як абпляваны, як абпэцканы. і мне было сорамна і шкода яго, і ў той самы час я не шкадаваў.

Усё было як трэба.

Я не ведаю, ці выжыла ласіха, ці засталося ў жывых малое ласянё, але я ведаю, што стрэлы не гучаць цяпер у нашых лясах, у нашых спустошаных пушчах.

Мір вам, звяры, і мір вам, людзі.

Нядаўна я чуў, як за азёрамі трубіў лось, першы лось пасля стольких год".

"Маленькая балерына" -- апавяданне, якое стала вядомым зусім нядаўна. Упершыню, праўда, пабачыла свет у рускім літаратурным часопісе. і хаця "Маленькая балерына" -- таксама фактычна пачатак творчай працы У.Караткевіча, усё ж апавяданне ўражвае здольнасцю пісьменніка асэнсаваць час, па-мастакоўску выказаць свой недавер, сваю трывогу, прымусіць нас, сённяшніх, задумацца. А яшчэ апавяданне "Маленькая балерына" штурхае да тых невясёлых думак, што вымагаюць пытання: "Чаму ж у нашай беларускай літаратуры так мала, так слабенька сказалі пра рэпрэсіўны махавік? Чаму???"

У "Творах" -- і два раздзелы з другой кнігі рамана "Каласы пад сярпом тваім", аб'яднаныя агульнай назвай "Брань". Знаёміць новая кніга і з драмай у чатырох дзеях, шасці карцінах "Трошкі далей ад месяца...".

Колькі слоў пра тыраж "Твораў" У.Караткевіча. 7 тысяч асобнікаў — вось які тыраж. Калі параўноўваць з іншымі, то і няблага па сённяшнім часе. Толькі вось трэба, пэўна ж, нагадаць, што першы том збору твораў У.Караткевіча быў выдадзены тыражом 60 000 асобнікаў. А апошні том -- 45 000. Як бачым, калі нават хто і захоча папоўніць паліцу караткевічаўскіх кніг, то наўрад ці ў яго гэта атрымаецца. Для 53 тысяч падпісчыкаў збору твораў апошні, скажам так, дзесяты том так і застанецца н798здзейсненай марай.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*НАВІНЫ БЕЛАРУСКАЙ ПОШТЫ*

# НА МАРКАХ – ЧАРНОБЫЛЬ

Галоўнай падзеяй у жыцці філатэлістаў рэспублікі ў пачатку красавіка стаў выпуск паштовых марак, прысвечаных 10-годдзю чарнобыльскай катастрофы. Хачу адзначыць, што за 10 гадоў, што прайшлі з дня трагічных падзей, -- гэта першы выпуск аб Чарнобылі, што тычыцца Беларусі. Яшчэ пошта былога СССР да пяцігоддзя Чарнобыля выпусціла паштовую марку і праводзіла спецгашэнне ў Кіеве і на вузле сувязі ў горадзе Славуцічы. У Беларусі ж не было тады ні гашэння, ні на марцы не ўпаміналася наша рэспубліка. Марка была пра чарнобыльскія падзеі, але канкрэтна не ўказвалася, у якой гэта рэспубліцы адбылося. Тры чарнобыльскія маркі і купон беларускай пошты выдадзены так званым квартблокам, які кампазіцыйна раскрывае трагічную тэму Чарнобыля -- выбух і яго вынікі. На купоне, як і на канверце, выдадзены да трагічнай даты, паказаны 4-ты блок Чарнобыльскай АЭС, які ўзарваўся і дыміць. На трох марках мастак В.Сітчанка выразна і вельмі пераканаўча паказаў вынікі чарнобыльскай трагедыі, у якой пацярпелі і людзі, і прырода. З адной з мініяцюр на нас глядзіць вока чалавека, у зрэнку якога паказана не навакольнае прыгожае асяроддзе, а знак радыяцыйнай небяспекі; зялёны ліст -- на другой марцы амаль мёртвы, ён часткова пажаўцеў, пакрыўся чорнымі плямамі, і на ім той жа знак радыяцыйнай небяспекі. На трэцяй марцы паказана трагедыя




ПЕРШЫ
100 год з дня нараджэння Кандрата Крапівы
ДП Мінская пошта 5.03.96 г.
PREMIER JOUR

чарнобыльскіх перасяленцаў -- сцяна з акном, пакінуты дом, акно крыж-накрыж забіта дошкамі, і ў яго разбітым шкле адлюстроўваецца не яркае сонца, а ўсё той жа знак радыяцыйнай небяспекі. На марках, купоне і канверце дадзены надпіс "10 гадоў чарнобыльскай трагедыі". У дзень выхаду марак у паштовае абарачэнне на Мінскай пошце было арганізавана спецыяльнае гашэнне "Першы дзень". Маркі пра чарнобыльскую трагедыю былі сустрэты філатэлістычнай грамадскасцю рэспублікі з вялікай цікавасцю.

Пошта рэспублікі працягвае знаёміць усіх нас сваімі выпускамі з забытымі гістарычнымі асобамі Беларусі. У 1955 годзе быў выдадзены канверт з партрэтам пісьменніка Яна Баршчэўскага, а ў канцы сакавіка гэтага года ў паштовых аддзяленнях рэспублікі з'явіўся канверт з партрэтам М.Нікіфароўскага (1845 -- 1910), ураджэнца вёскі Высіна Віцебскага раёна, вядомага беларускага этнографа і фалькларыста. Нікіфароўскі працаваў у Беларусі настаўнікам народных вучылішчаў і гімназій. Апублікаваў шэраг работ па этнаграфіі, фальклору і гісторыі Віцебшчыны. Канверт выдадзены да 150-годдзя з дня нараджэння Нікіфароўскага.

Упершыню ў гэтым годзе пошта рэспублікі выдала канверт да свята Пасхі: на малюнку канвер арбаванае яйка, кветкі і кі вярбы, што распусцілася.

У нашай рэспубліцы ёсць некалькі цікавых дзіцячых мастацкіх ектываў --тацавальных, чых, музычных. Аднаму з іх -- дзіцячаму музычнаму калектыву "Дударыкі" -- споўнілася 25 гадоў. У гонар юбілею пошта рэспублікі выдала канверт, на малюнку якога акрамя юбілейнага надпісу "Дударыкі". 25 год. Мінск", паказаны юныя музыканты. Гэта першы канверт беларускай пошты, прысвечаны падобнай тэматыцы. Будзем спадзявацца, што і юбілеі іншых музычных, танцавальных, харавых і пеўчых калектываў рэспублікі будуць адзначаны поштай.

Не так многа паштовых выпускаў прысвечана сучасным беларускім пісьменнікам і паэтам. Можна ўспомніць выпускі савецкай пошты, прысвечаныя Я.Купалу, Я.Коласу, З.Бядулі, а таксама марку да 100-годдзя пісьменніка М.Гарэцкага (1893--1939). У пачатку сакавіка гэтага года грамадскасць Беларусі адзначыла 100-гадовы юбілей вядомага беларускага пісьменніка і паэта-сатырыка Кандрата Крапівы. Аб К.Крапіве напісана і сказана многа, ён адлюстраваны і на фатаграфіях, і на палотнах мастакоў, і ў кіно. Але не было прысвечаных яму паштовых выпускаў. Сягоння гэты прабел ліквідаваны. Да 100-гадовага юбілею пісьменніка беларуская пошта выпусціла марку і спецыяльны канверт з партрэтам К.Крапівы. Дзень выхаду ў паштовае абарачэнне гэтых выданняў суправаджаўся спецыяльным гашэннем арыгінальным штэмпелем з надпісам "100 год з дня нараджэння Кандрата Крапівы". Пры ўсёй радасці, з якой сустрэлі філатэлісты рэспублікі гэты юбілейны выпуск, нельга не выказаць і сваіх засмучэнняў. А ці юбілейны гэта выпуск? Дзе на канверце сказана, што на ім змешчаны партрэт К.Крапівы? Ці ёсць на канверце даты жыцця і смерці пісьменніка? Няма ні подпісу пад партрэтам, ні юбілейных дат. Не ўсякі жыхар Беларусі, які возьме гэты канверт у рукі, назаве прозвішча чалавека, на ім адлюстраванага. Сёння не ўсіх ведаюць у твар. Няма даты жыцця і смерці пісьменніка і на паштовым штэмпелі. Зноў упушчэнні, зноў пераконваешся, што крытыка не дзейнічае на тых, хто выпускае паштовую прадукцыю. А апошняя, як было сказана і даўно, і неаднаразова, ёсць візітная картка краіны.

Беларускі Чырвоны Крыж адзначыў сваё 75-годдзе. Падзеі гэтай прысвечаны канверт беларускай пошты. У яго малюнку -- адлюстраванне Чырвонага Крыжа і юбілейны надпіс "75 год Беларускаму Чырвонаму Крыжу".

Чырвоны Крыж БССР быў створаны ў 1921 годзе, з 1925-га Чырвоны Крыж рэспублікі -- у складзе Саюза таварystваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца СССР. Чатыры прадстаўніцы рэспубліканскага Чырвонага Крыжа ўзнагароджаны вышэйшай узнагародай Міжнароднага Чырвонага Крыжа -- медалём Флорэнс Найцінгейл -- Е.Шаўчэнка, С.Галукова, Е.Сірэнка і З.Тусналобава-Марчанка. Герой Савецкага Саюза З.Тусналобава-Марчанка вынесла з поля бою 128 раненых, сама была цяжка паранена, з'яўлялася ганаровым грамадзянінам Полацка. У 1992 годзе беларуская пошта прысвяціла ёй свой канверт.

**Леў КОЛАСАЎ.**

# ЯКУЮ КНІГУ ЛІЧЫЦЬ РЭДКАЙ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Менавіта неабходнасць даследавання гісторыі кнігавыдання, выяўлення тэндэнцый і заканамернасцей, нацыянальных традыцый прыватнага кнігадрукавання ў Беларусі дзеля вывучэння страчанага вопыту мінулага, а таксама выкарыстання ў сучаснасці прапануюцца аддзелам рэдкай кнігі бібліятэкі БУК на навукова-практычную канферэнцыю "Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць у Беларусі: гісторыя і сучаснасць", якая адбудзецца 5—6 верасня гэтага года ў Беларускім універсітэце культуры. Арганізатарамі канферэнцыі сталі факультэт бібліятэчна-інфармацыйных сістэм, Аддзел рэдкай кнігі БУК, Беларуская бібліятэчная асацыяцыя. На абмеркаванне выносяцца наступныя пытанні: гісторыя беларускага недзяржаўнага друку; пытанні дзяржаўна-прававога рэгулявання выдавецкай дзейнасці на сучасным этапе; сучасны стан недзяржаўнай выдавецкай дзейнасці ў Беларусі; бібліятэкі і недзяржаўныя выдавецтвы: праблемы, іх узаемасувязі; праблемы распаўсюджання прадукцыі недзяржаўных выдавецтваў: маркетынг, цэнтры, кніжны гандаль, прадукцыя недзяржаўных выдавецтваў: галіновы, тэматычны, моўны і іншыя аспекты; незалежны перыядычны друк.

Жадаючыя прыняць удзел у канферэнцыі могуць дасылаць тэмы дакладаў да пачатку чэрвеня ў Аддзел рэдкай кнігі бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры на адрас: **220007, Мінск, вул. Рабкораўская, 17. Тэл.: 2-22-83-27.**

**Спадзяемся на карыснае ўзаемасупрацоўніцтва.**

**Ларыса ДОЎНАР.**





**Віцебская зямля багатая на народныя таленты. Сёлета ў цэнтры народных мастацтваў і рамёстваў працавала выстава народных умельцаў -- каруначніц з абласнога цэнтра.**

**НА ЗДЫМКАХ: майстрыха Валянціна ШАЎЛЯКОВА і яе работы; такія ажурныя ўпрыгажэнні вырабляюць віцебскія майстры.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## ДА ЧЫТАЧОЎ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!

**З 20 красавіка пачалася падпіска на перыядычныя выданні Беларусі, і вы, шаноўныя чытачы, маеце магчымасць падпісацца на "Голас Радзімы" на другое паўгоддзе 1996 года.**

**Спадзяемся, што вы зробіце гэта неадкладна, каб не спазніцца.**

**Наш індэкс -- 63854.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 480.
Падпісана да друку 6.5.1996 г.